

наркаспажыўцоў вырасла прыкладна да 150 тысяч (паводле афіцыйных дадзеных, іх было каля 15 тысяч). Дадамо сюды спажыўцоў навамодных спайсаў, парашкоў і марак — яшчэ каля 150 тысяч. Складваем гэтыя лічбы. Атрымліваецца каля 300 тысяч хворых людзей, якія, лічы, апынуліся за бортам грамадства. Вось чаму я шчыльна заняўся тэмай наркотыкаў, уключыў сваю «тэхнічную турбіну» і пачаў рабіць антынаркатычныя расследаванні. Пабыў у прытоне пад выглядам наркаспажыўца (хоць гэты крок быў не самы прафесійны), знайшоў крыніцы сярод хворых на залежнасць людзей, якія таксама жадалі змагацца супраць наркаты, адшукаў кампетэнтных асобаў з афіцыйных ведамстваў. А яшчэ праводзіў лабараторныя даследаванні купленых субстанцый, звяртаўся да навукоўцаў, урачоў, шукаў гісторыі. Напачатку тыя расследаванні многія прыўладныя асобы ўспрынялі ў штыкі. Былі і рэпрэсіі. Хоць што можна супрацьпаставіць, калі журналіст падае нечаканыя, шокавыя і неаспрэчныя факты, падмацаваныя дакументамі і відэа?

Да тэмы падключыліся іншыя неабыякавыя калегі. Так сцяна раўнадушнасці дала трэшчыну. Знайшліся і чыноўнікі, якія адрэагавалі на відэа, дзе спажыўцы лёгка купляюць наркотык і колюцца. У выніку ўсіх гэтых сумесных высілкаў было зменена заканадаўства, сітуацыя істотна палепшылася. Такая вось тэхналогія.

## Ці варта ісці на дыялог з чыноўнікамі?

Пра следчую журналістыку спрачаюцца — асобны гэта жанр ці проста метад. Як дасціпна выказаўся знакаміты кенійскі расследвальнік Касім Мухамед, «гэта калі капаеш глыбей, чым прынята, калі знаходзіш больш, чым табе падсунулі пад нос».

Расследаванні ў Беларусі ды і ў многіх іншых краінах — нялёгкі хлеб. Калі мне ўдалося ў «Звяздзе» і на «Еўрарадыё» атрымаць падтрымку з боку рэдактараў, то ў многіх СМІ таленавітыя журналісты папросту не маюць фізічнай магчымасці стаць расследвальнікамі. Іх эксплуатуюць як літаратурных рабоў і схіляюць да напісання гарачых аднадзённых матэрыялаў. Каб змяніць сітуацыю, калегам даводзіцца выходзіць з зоны камфорту, цярпець страты.

Журналістка Вольга Дэксніс некалькі месяцаў адпрацавала на рынку «Ждановічы» ў страўні «Сайгон» прыбіральшчыцай і афіцыянткай. Нікога не хачу пакрыўдзіць, але ўнікальны матэрыял месяцамі не друкавалі ў яе выданні. Наватарская для Беларусі работа ў стылі «на дне грамадства» ляжала на паліцы макулатурай! Безумоўна, калі гэты серыял з элементамі расследавання выйшаў у друк, то стаў хітом. Быў і эфект: рынак «Ждановічы» паставілі на вушы і пачалі ў нейкай ступені вырашаць праблему з антысанітарыяй у азіяцкіх страўнях. І, верагодна, каб такога кіпешу зноў не ўздымалася, санітарныя службы будуць больш пільна выконваць сваю працу…

Для мяне таксама стала нечаканасцю, што большасць журналісцкіх расследаванняў спрацоўваюць. Апроч рэакцыі на даследаванне распаўсюду наркотыкаў прывяду і такі прыклад. На «Еўрарадыё» мы зрабілі серыю матэрыялаў наконт утрымання радыенуклідаў у прадуктах харчавання. Афіцыйная дзяржлабараторыя канстатавала шматразовыя перавышэнні па стронцыі ў бульбе. Але ў заключэнні пазначылі, што прадукт праходзіць па нормах. Аказалася, што ў межах Мытнага саюза заканадаўцы накуралесілі з нормамі. У выніку пасля ўсіх нашых публікацый мы атрымалі інфармацыю, што прэм'ер-міністр Беларусі даў загад разабрацца з нестыкоўкамі.

Прыкладаў магу прывесці шэраг. Грунтоўныя матэрыялы спрацоўваюць. Дзяржава вымушана лічыцца і з незалежнымі СМІ, дзе такія працы ў пераважнай большасці і з'яўляюцца.

Іншая справа, што сярод калег ёсць і апаненты, якія займаюць іншую пазіцыю: праводзіць расследаванні ў Беларусі немагчыма, а калі і магчыма, то толькі па цацачных тэмках. Апаненты лічаць, што ўвогуле цырымоніцца з беларускімі чыноўнікамі не трэба, бо ніякі дыялог ва ўмовах аўтарытарызму непрымальны, гэта прагінанне і падладжванне. А ў нашай беларускай сітуацыі трэба ваяваць. Вось такая пазіцыя.

Асабіста я прытрымліваюся думкі, што грунтоўная журналістыка і ёсць інструмент, які можа прыводзіць да нейкіх зменаў у нашым нездаровым грамадстве, дзе многія падзяляюць людзей на «чэсных» і «нячэсных». Паводле ж законаў журналісцкай этыкі ў кожным разе пазіцыя ўсялякага боку павінна быць адлюстравана. У журналісцкіх расследаваннях гэта закон.

## Як захаваць незалежнасць у далікатных сітуацыях

Не сакрэт, што пасля выхаду гучных матэрыялаў намі пачынаюць цікавіцца «кампетэнтныя ведамствы». І калі той самы дыялог здараецца, узнікаюць далікатныя сітуацыі. Журналістаў часта спрабуюць ці падначаліць, ці ператварыць у інструменты для дасягнення пэўных мэтаў, ці пакараць. Хоць і пазбягаць кантактаў з патэнцыйнымі крыніцамі — няправільна. Іншая справа, як пры гэтым захаваць свой твар і незалежнасць?

Але і тут усё проста. Каб не пагарэць, трэба ўсяго толькі ўзбройвацца журналісцкай этыкай. Патэнцыйныя крыніцы трэба выслухаць, а потым ветліва, паважліва і цвёрда акрэсліць межы сваіх журналісцкіх паўнамоцтваў і тое, што адступаць ад этычных нормаў вы не можаце. Цвёрдая журналісцкая пазіцыя — насамрэч адзіны спосаб атрымаць надзейныя крыніцы інфармацыі і наладзіць сумленныя стасункі з тым бокам, які раней успрымаў вас не інакш, як ворага. Чыноўнікі і сілавікі таксама не ўсе спрэс азлобленыя гіены, якія збіраюцца знішчыць журналіста ці ім скарыстацца.

Упершыню з развагамі, ці варта ісці на інтэрв'ю да неадназначнай крыніцы, я сутыкнуўся ў студэнцкія гады, калі працаваў у «"Комсомольской правде" в Беларуси». Вёў рубрыку пра аўтамабілі і атрымаў заданне ўзяць інтэрв'ю ў кіраўніка Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай. Справа была пасля выбараў 2006 года. Тады мы, маладыя журналісты, упершыню сутыкнуліся з падазроным падлікам галасоў, «элегантнай перамогай» і зачысткай Плошчы. Браць інтэрв'ю ў асобы, якая прыклала да ўсіх гэтых працэсаў руку, было, так скажам, няўтульна.

«Уяві, што табе выпала магчымасць паразмаўляць з Гітлерам, — настройваў мяне на інтэрв'ю з Ярмошынай старэйшы калега Андрэй Асмалоўскі. — Няўжо табе было б не цікава спытацца ў яго пра службовае аўто? Так і тут. Ёсць этыка, правілы, галава на плячах. Спакойна ідзі і выконвай заданне. Гэта ўсяго толькі пра аўтамабілі…»

Тады пра журналісцкія расследаванні я нават не задумваўся. А пасля шмат разоў бываў у куды больш пікантных сітуацыях, але заўсёды збіраў мазгі ў купку і кіраваўся этыкай. Вельмі спадзяюся, што не перакрочыў мяжу і застаўся з чыстым сумленнем, зрабіўшы нешта карыснае для грамадства.

Калі ж «патэнцыйныя крыніцы» мелі да мяне няшчырыя намеры, спрабаваў выкруціцца з сітуацыі добра адпрацаванымі метадамі. Рэдактары заўсёды былі ў курсе маіх сустрэчаў. А на ўсялякі выпадак я шаптаў пра падобнае старэйшым, больш мацёрым калегам з БАЖ. «Патэнцыйным крыніцам», якія маюць несумленныя намеры, такія метады не падабаюцца, і спробы прагнуць журналіста, як паказвае «беларуская» практыка, на гэтым заканчваюцца.

У крайнім выпадку, калі жыўцом звярнуцца да чыноўніка ці сілавіка не ўдавалася, я карыстаўся законам «Аб зваротах грамадзян». Нават калі адказ быў няўцямны — гэта ўсё адно выказванне пазіцыі.

## Метад пераскоквання праз цэнзуру

Беларуская журналістыка асацыюецца са страшным словам «цэнзура». Паняцце гэтае часам аказваецца неадназначным.

Некаторыя ў сваіх СМІ трапляюць пад бамбардзіроўку цэнзараў бязлітасна і безнадзейна. Некаторыя апраўдваюць «цэнзурай» сваю ляноту і суб'ектыўнасць.



У рэйтынгах свабоды слова лацінаамерыканская Коста-Рыка пазначана белым колерам. То бок знаходзіцца ў пазітыўных топах. Здавалася б — выкрывай каго хочаш. Аднак не ўсё так проста.

Напярэдадні апошніх прэзідэнцкіх выбараў нацыянальная газета «La Nacion» замовіла сацыялагічныя даследаванні наконт папулярнасці

партый. Пра ўсю гэтую справу шырока абвесцілі. А даследаванне ў выніку не апублікавалі. Аказалася, што адна з галоўных партый (яе функцыянеры фінансуюць «La Nacion») значна страціла ў рэйтынгах. Вось вам і індэкс свабоды слова.

Калі я працаваў у газеце «Звязда» (хто будзе неабгрунтавана абвінавачваць мяне ў прадажнасці — таму хай адсохне язык), атрымлівалася асвятляць такія пікантныя тэмы, што часам не кожнае незалежнае выданне на гэта ішло.

Аднойчы здарылася амаль безнадзейная сітуацыя. У канцы лютага 2011-га рыхтаваўся матэрыял пра гібель чатырох памежнікаў пад Давыд-Гарадком. Іх сваякі даслалі шчымлівы ліст у рэдакцыю.

Справа выглядала так. Хлопцаў перавозілі ў няспраўнай, перагружанай машыне. У кузаў разам з людзьмі загрузілі 40-кілаграмовыя бардзюрныя пліты. Іх насуперак інструкцыям не замацавалі, паклалі проста так. Кіраваў транспартам вайсковец, які быў пазбаўлены вадзіцельскіх правоў за п'янку. Санкцыю здзяйсняць усё гэта даў камендант пагранкамендатуры. Камандзір вайсковай часці не спыняў усе гэтыя парушэнні… Машына з прычыны галалёду перакулілася. Хто вылецеў з кузава — выжылі. Астатніх забіла незамацаванымі бардзюрнымі плітамі.

Нармальнаму чалавеку было зразумела, хто павінен несці адказнасць за трагедыю.

Але сітуацыя разгортвалася па класічным беларускім сцэнары. Пасадзілі кіроўцу. А начальнікаў апраўдалі. Больш за тое — некаторым выпісалі павышэнні па службовай лесвіцы.

Цягам падрыхтоўкі матэрыялу высветлілася, што высокі афіцэр, якога адмазалі, — аднакашнік аднаго знакамітага беларускага сілавіка. Пра гэта ведаў і тагачасны рэдактар «Звязды» Уладзімір Наркевіч. Улічваючы ўсе абставіны і дзяржаўны статус газеты, выпускаць гэты тэкст у друк было для майго начальства рызыкоўна, амаль немагчыма. Але накладаць на матэрыял аглаблёвую цэнзуру Уладзімір Браніслававіч не стаў. І падказаў хітры спосаб пакінуць матэрыял на паласе.

З кабінета рэдактара я накіраваўся ў Дзяржаўны памежны камітэт. Патлумачыў у прэсслужбе, што сітуацыя тэрміновая і надзвычайная, што тэкст ужо на паласе. У выніку ўдалося аператыўна сустрэцца з намеснікам кіраўніка Камітэта, на той час палкоўнікам. Паклаў яму на стол тэкст і пацвярджальныя дакументы, паўтарыў: «Вельмі вас паважаю, але гэты матэрыял ужо на паласе, не магу з вамі не падзяліцца. Калі я раптам зрабіў нейкія памылкі — можам паправіць». Палкоўнік азнаёміўся з тэкстам і не змог запярэчыць: кожны факт быў падмацаваны доказам. Ён не зрабіў ніводнай праўкі, паставіў візу, даў каментар. І «крамольны», безнадзейны з пункту гледжання цэнзуры тэкст на наступны дзень выйшаў у друк.

А вось рэдактар кастарыканскай газеты «La Nacion» у падобнай сітуацыі наўрад ці выпусціў бы матэрыял...

Таму паняцце «цэнзура» неадназначнае. Журналіст павінен задумацца над тэхнічным арсеналам, якім можна паспрабаваць прабіцца праз вострыя вуглы. Хай сабе і ў нашых умовах. А раптам пракаціць!

Канешне, бывалі сітуацыі, калі прабіць браню цэнзуры не ўдавалася. Гэта было, да прыкладу, пасля прэзідэнцкіх «выбараў» 2010 года. Мы ў «Звяздзе» фізічна не маглі выпусціць у друк аб'ектыўны матэрыял. Таму некаторыя друкаваліся пад псеўданімамі ў іншых медыя. У «Звязду» ж і іншыя дзяржгазеты тады прымусова паставілі хлуслівы допіс аднаго амбітнага рэдактара... З таго моманту і пачалося знішчэнне хоць і дзяржаўнай, але ўнікальнай газеты «Звязда», якая ў выніку пераўтварылася ў…

***

Не кожны таленавіты аўтар мае імпэт і фізічныя магчымасці рабіцца расследвальнікам. Нехта робіць бліскучыя гутаркі, нехта спецыялізуецца на рэпартажах… Яшчэ адна праблема — у нашым абмежаваным рынку і ў надзвычайнай любові да «фаст-фудаў» — хуткіх і гарачых навінаў.

У нас на «Еўрарадыё» працуе вельмі здольная каманда. Але з прычыны маленькай колькасці журналістаў (дазволены абмежаваны лік акрэдытацый) мы маем невялікі рэсурс для падрыхтоўкі расследаванняў, але імкнемся гэтым займацца.

Сістэма СМІ ў Беларусі збудавана такім чынам, што журналіст часта з'яўляецца бяспраўнай і безабароннай пешкай у вачах многіх рэдактараў. Тыя адчуваюць смак улады ў сваім дробным медыякнястве і, калі што, — у любы момант выкідаюць непажаданага журналіста за борт.

Аднак, калі глядзець на справу з перспектывай, «следчыя» метады дапамагаюць палепшыць вартасць імені журналіста, вагу СМІ.

Многія, дзякуй Богу, разумеюць, што грунтоўныя матэрыялы дазваляюць з максімальным ККД здабыць належны вынік, узняць праблему і паўплываць на яе вырашэнне.

# Як працуюць фінскія журналісты



Інка Кованен працуе ў аддзеле палітыкі вядомага фінскага штодзённіка «Helsingin Sanomat». Як кажа пра сваю газету сама журналістка, яе выданне — адно з самых буйных у Фінляндыі і адно з найбольш якасных штодзённых СМІ ў Скандынавіі.

Інцы 40 гадоў, яна замужам за журналістам і выхоўвае дзвюх дачок-блізнятак. Муж Інкі працуе ў той жа газеце, толькі ў іншым аддзеле.

Фота Arne Sattler

— У газету я прыйшла ў 2002 годзе, — распавядае журналістка. — Гэта была так званая «праца на лета», я прыйшла як часовы супрацоўнік, пакуль штатны журналіст быў у адпачынку. У нашай газеце такая практыка досыць распаўсюджаная. Многія пачынаюць журналісцкую кар'еру менавіта з «працы на лета» (звычайна з чэрвеня па жнівень). Памятаю, спачатку быў адбор — заяўкі трэба было падаваць ажно ў студзені. Але мне пашанцавала, і я прайшла.

Працавала старанна, таму прапанове пра далейшае супрацоўніцтва была толькі радая. Спачатку я была пазаштатнікам, а ў штат мяне ўзялі праз чатыры гады, у 2010-м. І, можна сказаць, мне яшчэ пашчасціла.

На жаль, сёння эканамічнае становішча СМІ ў Фінляндыі пагаршаецца, і атрымаць месца ў штаце рэдакцыі нашмат цяжэй, чым было раней. На пачатку года ў нас правялі скарачэнне. Скарацілі некаторыя аддзелы, а супрацоўнікі




Фота Lewis Martin

перадпенсійнага ўзросту — у цэлым чалавек 50 — увогуле страцілі працу. У такой сітуацыі хтосьці звальняецца сам, калі знаходзіць іншае месца.

Шчыра прызнацца, я баялася, што мяне таксама скароцяць. Але мне і майму мужу зноў пашанцавала. У маім аддзеле дык і ўвогуле ўсіх пакінулі. Сёння сітуацыя выглядае больш спакойна, аднак чуткі пра рэарганізацыю газеты ўжо ходзяць.

***— Які тыраж у «Helsingin Sanomat», і колькі зарабляюць журналісты?***

— «Helsingin Sanomat» выходзіць сем разоў на тыдзень. Таксама і ў нядзелю. Наклад газеты — 340 тысяч асобнікаў, раней ён быў большы, але фінансавы крызіс уплывае і на нас, таму назіраецца тэндэнцыя паступовага скарачэння тыражу.

Значную частку ў нас займае падпіска. Варта сказаць, што фіны любяць чытаць газеты, таму падпіска з кожным годам хоць і падае, аднак лічбы пакуль далёка не крытычныя. Што тычыцца рэкламы, то яе, безумоўна, таксама шмат. Але фінансавы крызіс і тут уносіць свае карэктывы — колькасць рэкламы памяншаецца.

У складзе рэдакцыі — каля 280 журналістаў. Наконт зарплаты, на жаль, я не магу даць вычарпальнага адказу, бо лічбы розняцца ў кожным з аддзелаў і залежаць ад досведу супрацоўніка.

Калі казаць пра мяне, то ў месяц як журналіст аддзела палітыкі я атрымліваю 3 700 еўра, а таксама даплаты за працу ў вечаровую змену і выхадныя. Звычайна сістэма такая: 50 адсоткаў ад заробку ў гадзіну дадаюць за кожную гадзіну вечаровай змены, калі ж ты працуеш у нядзелю, то за кожную гадзіну даплата 100 працэнтаў.

***— Раскажы, калі ласка, пра арганізацыю працы ў тваім аддзеле.***

— Зараз я працую больш для анлайн-рэдакцыі. Хаця ў цэлым строгага падзелу, куды ты пішаш, у мяне няма. Як, у прынцыпе, і ў астатніх маіх калег. Штосьці ідзе на сайт, штосьці — у газету. Раней я рыхтавала таксама матэрыялы і на радыё, былі і відэаматэрыялы — у той перыяд газета мела свае аўдыя- і відэавыпускі. Але сёння з прычыны эканамічных варункаў кіраўніцтва ад гэтай формы адмовілася.

Затое актыўна выкарыстоўваецца сістэма paywall (платная падпіска на газетны кантэнт у інтэрнэце. — *Заўв. аўт.*).

У маім аддзеле працуе восем журналістаў (раней, калі я толькі прыйшла, нас было 12). Некалькі гадоў таму нам дазвалялі выпісваць неабходныя для працы замежныя часопісы. На жаль, сёння такую практыку адмянілі.

Як журналіст аддзела палітыкі, была ў службовых камандзіроўках падчас ваенных дзеянняў у Ізраілі, Ліване, Чадзе, іншых краінах. Камандзіроўкі, вядома, рэдакцыя аплачвала. Калі ў якую з краін патрэбна была віза, то яе афармленнем таксама займаўся працадаўца.

Раней камандзіроўкі былі больш працяглымі — ад двух да трох тыдняў. Сёння, улічваючы нестабільную эканамічную сітуацыю, мы едзем у камандзіроўку на два-тры дні, максімум — дзесяць.

Мой муж, дарэчы, таксама ездзіць у замежныя камандзіроўкі. Ён працуе ў так званым «Feature-аддзеле». Над аўтарскімі тэкстамі там працуюць даўжэй, бо аддзел арыентаваны на аналітыку.

Таксама ў газеты ёсць восем замежных журналістаў. Гэта значыць, што пэўны час ты мусіш працаваць у іншай краіне.

Адзін год муж правёў у Індыі, яшчэ адзін — у Бразіліі, таксама працаваў у Францыі. У Індыю і Бразілію мы ездзілі ўсёй сям'ёй. У Францыю я прыязджала да мужа толькі ў адведкі, бо адлегласць паміж краінамі не такая вялікая ў параўнанні з Індыяй ці Бразіліяй.

З мовамі асаблівай цяжкасці не было: я размаўляю па-фінску, а таксама валодаю англійскай, французскай, нідэрландскай, нямецкай і шведскай.

***— Ці можаш ты сама ініцыяваць замежную камандзіроўку, і як яна аплачваецца?***

— Так, безумоўна. Калі ёсць патрэба, то я сама магу выступіць з такой ініцыятывай. Звычайна ж прапановы паходзяць ад майго шэфа. У нашым



аддзеле няма строгага падзелу адносна таго, каму ехаць. Едзе той, у каго ёсць час і жаданне.

Трэба, аднак, усведамляць, што часам ты едзеш у краіну, дзе ідзе вайна, і працы ў такіх паездках заўжды вельмі шмат. Часам працуеш амаль 24 гадзіны...

Калі казаць пра мой досвед, то ў 2009-м я была ў Ізраілі падчас канфлікту вакол сектара Газа, працавала ў Ліване ў 2010-м, калі там разгарэлася грамадзянская вайна, а таксама падчас ваенных дзеянняў у Чадзе.




Фота Звязда Мікеладзе

Ваенныя камандзіроўкі аплачваюцца рэдакцыяй вельмі шчодра, але трэба разумець, што гэта за паездкі і якіх маральных і фізічных высілкаў яны патрабуюць...

Наконт аплаты такой камандзіроўкі я, на жаль, ужо не ўзгадаю лічбы, але гаворка ідзе пра тысячы еўра.

Гэтыя грошы можна браць не ўсе, можна частку замяніць выхаднымі днямі. Звычайна журналісты так і робяць.

***— Патлумач, чаму ў рэдакцыі існуе цікавасць да ваенных падзей у Афрыцы? Здаецца, фінскіх чытачоў павінна цікавіць зусім іншае...***

— Рэч у тым, што шмат фінаў працавала і працуе на афрыканскім кантыненце ў якасці валанцёраў, таму навіна пра ваенныя дзеянні ў той ці іншай краіне выклікае дастатковую актыўнасць сярод чытачоў.

Таму наш аддзел у нечым адметны. Можна сказаць, што ён карыстаецца ў рэдакцыі своеасаблівай павагай.

Усе мы працуем у штаце, таксама ўсе журналісты ў рэдакцыі маюць службовыя мабільныя тэлефоны (штомесяц на ваш рахунак прыходзіць каля 20 еўра).

Мне аднойчы ўвогуле выдалі працоўны айфон. На той момант я часова працавала ў якасці другога шэфа. Адказная праца. Трэба было шмат ездзіць. А айфон быў зручны тым, што мае добрую якасць фота і відэа, якія трэба было рабіць у паездках.

***— Ці не баішся ты ездзіць у такія камандзіроўкі зараз, калі ў цябе падрастаюць маленькія дочкі?***

— Вядома, я пра гэта думаю. Маці дзецям ніхто не заменіць. Таму пакуль у «гарачыя кропкі» не езджу. Я павінна быць больш адказнай, бо мае дзеці патрабуюць вялікай увагі і матулінай ласкі. Хаця ў Індыю мы з мужам іх бралі, калі дочкам было па два гады. Дзякуй Богу, усё было добра.

***— А не думаеш, што твае дзяўчаты, калі падрастуць, то па прыкладзе бацькоў могуць таксама пайсці ў журналісты?***

— Не, я іх там не бачу (усміхаецца). Вядома, рашэнне прымаць ім, але журналістыка як прафесія на сёння яшчэ застаецца дастаткова няпростай для жанчыны. Аднак гэта, прынамсі, мой досвед і маё меркаванне.

***— Ці шмат працуе сёння ў «Helsingin Sanomat» маладых журналістаў? Ці дзеляцца з імі досведам старэйшыя калегі?***

— Моладзь ёсць. І кожны год яе ўсё больш. Але ўнікальнасцю фінскай сістэмы журналістыкі я назвала б якраз адсутнасць падзелу на больш і менш дасведчаных. Моладзь займаецца той жа працай, што і старэйшыя калегі з багатым досведам. Працуе на тых жа пасадах, што і старэйшыя калегі. Добра гэта ці не, мне цяжка сказаць. Ёсць мінусы, але ёсць і плюсы.

*Размаўляў Ілья ЛАПАТО*

# День стрелка

*Андрей АРХАНГЕЛЬСКИЙ,*
*AVA.MD*

## О новом поколении пламенных пропагандистов



**С 1 марта я регулярно слушаю четыре радиостанции — РСН, «Говорит Москва», «Вести ФМ» и КП («Комсомольская правда»). Радио (даже прогосударственное, пропагандистское), в отличие от ТВ, — прямой эфир. Там всегда больше пробелов, оговорок, пауз. Эти оговорки для исследователя — самое дорогое, потому что они, по Фрейду, обнажают истинные намерения говорящих.**

Зачем я все это слушаю? Бессознательно — я ведь должен и к себе применять фрейдистский метод: вероятно, я все время жду, «когда это кончится», надеясь, что пропаганда делается по указке и что после условного сигнала «отбой» все прекратится.

Так я думал долгое время и жадно ловил малейшие изменения в риторике. При желании их можно заметить: да, слово «каратели» заменено на нейтральное «украинские военные» (два месяца «киевские каратели» были нормой в новостях), как и слово «хунта». Эти слова, впрочем, употребляют и сегодня в эфире представители ДНР и слушатели.

Сегодня я констатирую: это ложные надежды, что «риторика меняется», — потому что риторика государственных СМИ меняется примерно так же, как пульс у впавшего в кому.

## «Украинский» язык

Когда мимо проносится поезд, зрители цепенеют, — писал Кафка. Всякий раз, когда я слушаю этот «язык зверя», «язык ада», «розжиг ненависти», меня охватывает подобное оцепенение. Я заворожен этим. У меня уже болезненная привычка слушать это и читать. Антон Долин очень верно назвал это «ядовитым удовольствием».

Тут нельзя сразу сказать — в отличие от ТВ, — что прогосударственные радиостанции как-то совсем сошли с ума. В каких-то случаях они ведут себя как нормальные СМИ — например, когда речь идет о внутренней политике. В эфире депутату Евгению Федорову могут задать вопрос о дочерях Путина — в ответ на его инициативу запретить занимать госпосты тем, у кого родственники за границей. Или вот дело Удальцова — Развозжаева: комментарии берут и у стороны обвинения, и у адвокатов, у Карины Москаленко. Или вот откровенно высмеивают дело Евгении Васильевой.

Но, как только речь заходит про Украину, все меняется. Хотя и тут есть дифференциация. На «Говорит Москва» в новостях иногда ссылаются на сообщения спикера АТО Владислава Селезнева. В пятницу (11 июля) дают слово адвокату Надежды Савченко. Ведущий новостей, говоря о бое на аэродроме Луганска, 10 июля сказал: «Какая из сторон применила “Грады”, выяснить не удалось». По нынешним временам это просто «пир объективности».

У «Вестей ФМ» есть собкор в Украине Владимир Синельников. Репортажи его на любую тему уже четыре месяца заканчиваются одинаково: «...Сбываются худшие прогнозы. Судя по всему, у Украины есть еще месяц, а дальше ее ждет крах. Студия?..» По крайней мере, тут формально соблюдаются какие-то журналистские нормы. Это старая школа.

Даже такое на КП и РСН невозможно. Эти станции по сути занимаются информационным сопровождением ДНР / ЛНР. В эфире постоянно Пушилин и другие руководители самопровозглашенных республик. Например, в субботу, 12 июля, выступал какой-то представитель Бородая — даже не сам Бородай — по поводу реакции ДНР на санкции; и ведущий слушал его комментарии, что называется, не дыша.

Это не просто игра на одной стороне. Когда речь идет об Украине — а там часовые программы бывают посвящены разбору какого-нибудь инцидента, — словно бы возникает другое измерение. Сложились уже негласные символы и коды, особая атмосфера единения. Например, таким общим кодом является поклонение Стрелкову, которого в эфире называют по имени-отчеству. «Этого не подтверждает Игорь Иванович». «Игорь Иванович надеется». «Игорь Иванович спокоен». Его фамилию, как и имя Бога, не поминают всуе. Добавляет интриги то, что сам «Игорь Иванович» в эфире не бывает. Он бывает только в газете (КП), точнее, бывал — в видео, которые выкладывают на сайте. На радио КП пускать «Игоря Ивановича», видимо, запрещено, но этот запрет только усиливает эффект обожания. Влюбленные не говорят о главном, тем самым они только об этом и говорят — была, кажется, такая мысль у Барта. Единственное, что пока мешает слушателям и ведущим раствориться в объекте любви, — это общие прогосударственные установки.

10 июля, РСН. 15:20, очередное интервью с Пушилиным. Ведущие Даша и Никита. «Сколько у вас оружия?», «Будете ли вы отбивать захваченные города?» — интересуются ведущие. Другой стороны конфликта там просто нет — она деперсонифицирована. Боевую обстановку на радио КП и РСН обсуждают подробно: в новостях первым делом сообщают о потерях украинских войск. «Украинские военные потеряли еще один самолет», «потеряли до 30 военных». О потерях ДНР не сообщают, поскольку «о потерях ополченцев данных нет». Появилась информация о том, что в Луганск можно проникнуть под землей, и буквально сразу — комментарий военного эксперта и дальнейшее обсуждение на полчаса: «Могут ли украинские войска попасть в Луганск через шахтерские тоннели?» Сообщается о военных планах «Игоря Ивановича». Например, корреспондент КП рассказывает в эфире (и в газете), как «Игорь Иванович» по тактике «образует котел и рассечет на три части прорвавшиеся на южный фас обороны украинские войска».

**Ошибочно считать, что на госканалах люди исключительно «выполняют заказ»: никакой журналист не мог бы делать это с таким рвением. Там есть своя вера, и сегодня эта вера — война. Мечтой этих детей 1990-х и 2000-х, я почти уверен, является борьба с Америкой не в переносном, а в прямом смысле. Их идея-минимум — «ввод войск». И именно это они считают патриотизмом. Если страна закроет границы, это действительно не будет для них трагедией; ну, может быть, станет лет через 20, когда они постареют.**

Газета и радио КП по жанру — развлекательные СМИ, причем именно в духе 1990-х годов. Обычное дело: гость в студии — «парапсихолог, нумеролог Мирослав», он посылает лучи энергии звонящим; днем раньше там ведет программу ясновидящая. По субботам есть регулярная программа, посвященная группе Дятлова, и там обсуждают буквально каждую косточку погибших 50 лет назад. Эта смесь парапсихологии, некрофилии и ностальгии по советскому — плюс ядреная душевность — составляет неповторимый стиль КП, и война органично со всем этим сочетается.




Фото Сергея Грица

## Убежденные носители «правды»

Безусловно, есть директивные новости, которые спускаются сверху. Их легко различить по интенсивности и навязчивости. Все станции один в один повторяют новости о залетевших снарядах; предыдущая директива была про беженцев, еще ранее — «гуманитарная катастрофа». Это обязаловка, это следует вбивать в голову — и каждый это делает, как умеет: на КП и «Вестях» готовят репортажи о спасшихся из Славянска (особенно потряс сюжет о собаке, вывезенной оттуда), а «Говорит Москва» позволяет себе даже поругивать беженцев за то, что они в России не хотят работать.

Случаются и какие-то совсем неожиданные вещи: 8 июля на «Говорит Москва» политолог Дмитрий Орлов сообщает, что Россия «не несет ответственности» за «воинствующие группировки» (!) в Украине и что ДНР неспособна контролировать территории — даже так, как в Приднестровье. Орлов объясняет, что Владимир Путин ничего никому не обещал. В общем, «сдает Донбасс» по полной. Ведущая в шоке. Слушатель звонит в эфир и буквально говорит: «Вы же два месяца подначивали».

Или вот другая программа, звонит слушатель — из тех, кого за два месяца это радио воспитало: «Надо вводить... надо вводить... почему молчит государство... оружие надо...» И тут ведущий отвечает: «А кто говорил, что мы должны помогать оружием?..» Слушатель в полной растерянности: «Как?.. Вы же сами... говорили». Ведущий: «Не-е-ет, а кто говорил? Кто призывал?»

То есть может показаться, что накал спадает и официальные спикеры уже повторяют формулу

«нас провоцируют на войну, нельзя поддаваться на провокации», — но вот какая вещь: сами ведущие уже не хотят снижать и гасить. Эти люди, повинуясь именно каким-то внутренним убеждениям, не дают этому напору ослабнуть — на радио, по крайней мере, — и они видят в этом свою сверхзадачу. Там, внутри редакций, уже сложились за эти годы свои идеалы, их можно назвать реваншистскими. Ненависть к Америке и взбунтовавшемуся «младшему брату», глобальная мечта о «компенсации травмы». Все то, что они лет пять назад обсуждали в курилках, теперь можно говорить в эфире. Это выросло путинское поколение, неосоветское.

Большинство из тех, кто все это говорит в эфире, — люди молодые, от 20 до 30 лет.

Тут нет, в общем, ничего удивительного. Они с детства видели фильмы, прославляющие СССР: ведь у нас так получается, что любой сериал, даже про ГУЛАГ, даже по Солженицыну, являлся скрытой ностальгией по советскому времени. Все это казалось безобидным — но на самом деле имело огромное воздействие на поколение, выросшее при Путине, которое, оказывается, поняло это так, что СССР был лучшей страной и его надо вернуть. Недаром в рекламе «Сникерса» (футбольной) двое из массовки стоят в майках с надписью «СССР»: компания знает, что это реальный массовый потребитель 20–30 лет.

Работники радиостанций являются такими вот молодыми людьми в майках «СССР». И как было не появиться этому поколению, если РСН 10 лет назад называлась «Русское радио-2» и крутила советские песни 24 часа в сутки; и слоган там был: «Наша родина — СССР». Собственно, это результат путинской пропаганды, но она породила вовсе не путинистов, а реваншистов гораздо более радикальных, чем Путин.

Путин для них является не богом, а компромиссом; богом является Стрелков. И когда они по сути ругают Путина «за нерешительность», они служат высшей идее, являющейся логичным продолжением того, чему их учили в детстве. Это неудивительно опять же — потому что их единственной настоящей религией была война. И эти постоянные сравнения с Великой Отечественной — «котел, как сталинградский» — это все тоже странный, непредсказуемый результат пропаганды, которая вроде бы славила подвиг народа, а фактически породила милитаризм. По сути эти дети не знают мирной этики, никто и никогда не говорил им, что в современной жизни может быть что-то, чему можно служить и верить. И вывод тут такой: даже если какие-то команды «притушить градус» сверху и спускаются, они попросту игнорируются на местах, на низовом уровне — власть в идеологическом и, я бы даже сказал, духовном смысле уже не контролирует СМИ. Она сталкивается с тихим массовым сопротивлением этих людей.

Суббота, 12 июля. «Говорит Москва». Программа «Русский дух». Ведущая Евгения Волгина беседует с президентом Российского еврейского конгресса Юрием Каннером. Ведущая: «Киевские власти называют нацистами. Почему Европа не реагирует на это?»

Каннер уклончиво отвечает что-то. Ведущую это не устраивает:

— То, как себя ведет Киев, — это проявления нацизма и фашизма?

— Нет, — отвечает наконец собеседник. — Это не отличается от того, что было в Чечне и Дагестане. Это обеспечение безопасности границ.

— Коломойского называют лидером нацистского движения...

— У Коломойского можно больше найти хорошего, чем у Геббельса, — иронизирует Каннер.







В социальных сетях активно распространялась фотография, на которой изображен якобы горящий украинский город Донецк 27 мая 2014 года.

Однако таких пожаров в Донецке не было. Эту информацию подтвердили и жители Донецка — очевидцы событий. Постановочность фото и его излишняя «кинематографичность» сразу наталкивают на мысль, что оно является результатом обработки в программах компьютерной графики.

Оригинал фото был взят на странице известной донецкой фотостудии fotoLUXstudio.

*По материалам сайта stopfake.org*

— То есть Еврейский конгресс России не осуждает действий Киева?

— Еврейский конгресс России не имеет к этому отношения. То, что происходит в Украине, не касается нас.

— Как это не касается? Но отношение, позиция у вас есть?

— Мы не оцениваем действия чужого государства.

Этот ответ ей действительно непонятен. Она не понимает, что значит «дела соседней страны». Она выросла с представлением о том, что все эти «соседние страны» есть вещь довольно условная.

У Волгиной есть страница в Фейсбуке; красивая девушка. В Фейсбуке совершенно обычно все, какие-то смешные котики и фото на фоне вывески РСН, где она работала ранее. Подпись: «Всем солнца, товарищи», — из «Renaissance Golden View Beach Resort». Это Шарм-эш-Шейх, курорт в Египте.

Она же в воскресенье, 13 июля, разговаривает с Францем Клинцевичем: «Ну вот, уже убило человека на нашей территории. Что мы будем делать? Как отвечать?» Клинцевич, зампред комитета Госдумы по обороне, сам в замешательстве, хотя ведущая «Женя» (он так ее называет) его, конечно, в хорошем смысле завораживает. Он действительно втайне восхищен, я думаю, этим неосоветским радикализмом — комсомольцы во времена юности Клинцевича, в 70-е, не были так пламенны (Сергей Миронов накануне в эфире точно так же был заворожен этим напором и тоже вынужден оправдываться перед поколением «бури и натиска»). 40 минут Волгина буквально атакует Клинцевича — главная и единственная ее мысль: «Давайте введем войска».

— Шавка убивает людей. Что слон делает? Какие варианты?

Ответ Клинцевича:

— Нас втягивают в кровь. Вы хотите, чтобы мы ввязались в войну?

— Да с чего вы взяли, что я хочу? Я просто спрашиваю варианты, — говорит Женя. — Каким образом мы можем себя защитить? И жителей Донецка и Ростовской области? Как мы можем уничтожить эти батареи? Почему мы не идем по этому пути?

«Россия слила Юго-Восток, — констатирует Женя в эфире. — Россия готова помочь ополченцам?»

Я никогда не думал, что напишу такое, — но Клинцевич и Миронов на этом фоне являются последними островками здравого смысла по сравнению с ведущей. Но нельзя не сказать: Женя делает это искренне. Это не работа. Не установка начальства. Начальство не могло бы заставить так себя вести. Собственно, эти люди — они радикальнее того, что им спускают сверху. И между ними тоже солидарность — как, допустим, солидарность между либеральными журналистами. И у них тоже — идея.

Трудно сказать, что контролирует на сегодняшний день Стрелков в Донбассе, но государственные СМИ сегодня точно контролирует он. И правильнее было бы называть этих людей уже не поколением Путина, а поколением Стрелкова.

Ничего, распогодится… В. Высоцкий

# Брестский курьер

## друкаваныя выпускі, сайт і іх чытачы

**Амаль чвэрць стагоддзя ў рэгіёне Прыбужжа жыве і дзейнічае газета «Брестский курьер», што заявіла пра сябе як першае недзяржаўнае выданне ў гэтым прымежжы Беларусі.**



*Мікалай АЛЯКСАНДРАЎ, галоўны рэдактар «БК»*

### Перадгісторыя

З першых дзён свайго выхаду мы так вызначылі місію свайго выдання: аб'ектыўна і аператыўна інфармаваць пра падзеі, што адбываюцца ў Брэсцкім рэгіёне і Рэспубліцы Беларусь, аналітычна адлюстроўваць дынаміку сучасных працэсаў, кансалідаваць грамадзянскую супольнасць у сцвярджэнні дэмакратычных каштоўнасцей. І на працягу ўсіх мінулых гадоў гэтай пазіцыі прытрымліваемся. Мяркую, што важкаю ацэнкай дзейнасці «Брестского курьера» сталася тое, што газета першаю з беларускіх СМІ стала лаўрэатам прэміі Фонду Герда Буцэрыуса (ФРГ) па выніках 1999 года.

Сёння газета характарызуецца наступнымі параметрамі:

- перыядычнасць — 1 раз на тыдзень (серада);
- наклад — 6700–7300 асобнікаў;
- аб'ём — 32 старонкі фармату А3;
- распаўсюджанне — Брэст і Брэсцкая вобласць;
- мовы выдання — руская і беларуская.

Тое, што наша газета захавала ўплывовасць у рэгіёне і мае стабільную чытацкую аўдыторыю, тлумачыцца ў першую чаргу наступным: «Брестский курьер» адпачатку быў зарыентаваны на прафесійныя стандарты еўрапейскай журналістыкі і зваротную сувязь з чытачамі.

У той жа час мы разумелі і ўлічвалі змены зацікаўленняў, прыхільнасцяў, спецыфікі ўспрымання інфармацыі з боку нашых чытачоў. Сама чытацкая аўдыторыя адчувальна трансфармавалася цягам гэтых гадоў: пашыралася канкурэнтнае асяроддзе, адбывалася змена пакаленняў і адпаведна каштоўнасцяў і прыярытэтаў, эпоха камп'ютарызацыі прапаноўвала новыя крыніцы СМІ.

### Што мы маем цяпер як альтэрнатыву друкаванай версіі?

Анлайн-версія «Брестского курьера» (http://www.bk-brest.by/) выходзіць два гады. Асноўны змест шмат у чым супадае з папяровым выданнем. Напаўненне сайта адбываецца пасля выхаду друкаванай версіі — у сераду і чацвер. У газеце пераважаюць арыгінальныя матэрыялы, перадрукоўкі з іншых крыніц займаюць не болей за 10 %.

Аднак паміж папяровым выданнем і інтэрнэт-версіяй ёсць і адрозненні. Рубрыка «Свежыя навіны» абнаўляецца па меры паступлення інфармацыі. Акрамя таго, на сайт аператыўна выводзяцца матэрыялы, якія на момант выпуску папяровай версіі маглі б у нейкай ступені састарэць альбо страціць прыярытэты выхаду ў канкурэнтным асяроддзі. Таксама сайт дазваляе змяшчаць публікацыі ў большым аб'ёме, чымся дапускае папяровае выданне. І ілюстратыўна сайт больш насычаны за друкаваныя выпускі газеты.

Найбольшую цікавасць у чытачоў выклікаюць артыкулы на сацыяльныя тэмы: жыллё, камуналка і г. д. Асаблівасцю Брэста з'яўляецца вялікая

цікавасць да матэрыялаў на тэмы памежжа, гісторыі горада і захавання яго архітэктурналандшафтнага асяроддзя, да культурнай праблематыкі. Менавіта гэтыя пытанні выклікаюць найбольш бурныя абмеркаванні. У каментарах выкарыстоўваецца прынцып прэмадэрацыі.

Напаўненнем анлайн-версіі газеты займаецца адміністратар сайта, акрамя таго, у некаторых журналістаў маюцца паўнамоцтвы самастойна змяшчаць свае матэрыялы.

Кірункамі развіцця сайта мы бачым:

- удасканаленне дызайну і структуры сайта;
- больш аператыўнае змяшчэнне матэрыялаў, навінавае напаўненне;
- прыцягненне рэкламы;
- пашырэнне мультымедыя — відэа- і аўдыяматэрыялаў (яны ў нас ужо выкарыстоўваюцца, але не сістэматычна);
- выкарыстанне рычагоў SEO-аптымізацыі дзеля падвышэння наведвальнасці.

## Суправаджэнне сайта

Мы імкнёмся да прысутнасці «Брестского курьера» ў сацыяльных медыя.

У 2010 годзе газета далучылася да Twitter.

«Вконтакте» і ў «Одноклассниках» акаўнты створаныя, але вядуцца нерэгулярна. Напрыклад, журналістка Наталля Алейнікава актыўна карыстаецца «Одноклассниками», часта змяшчае матэрыялы ў гэтай сацыяльнай сетцы.

Выкарыстоўваецца дзеля трансляцыі матэрыялаў і «Живой Журнал» (супольнасць http://brest-kurier-by.livejournal.com/ — і ўласна часопіс http://bk-brest.livejournal.com/).

Адміністратар сайта Валерый Цапкоў праз свой журнал па тэгу «Брестский курьер» актыўна распаўсюджвае матэрыялы газеты.

На рэсурсе blogspot у «Брестского курьера» маецца акаўнт http://bk-brest.blogspot.com/, які выкарыстоўваецца дзеля паказу вялікіх фатаграфій. Першы ж зварот да гэтага вэб-сэрвісу засведчыў, што вялікія фота выклікаюць цікавасць.

Маецца наш акаўнт і на YouTube дзеля трансляцыі свайго канала відэа (https://www.youtube.com/user/Brestcourier).

Досвед выкарыстання сацыяльных сетак сведчыць пра тое, што яны прыносяць дадатковы трафік. Наведвальнасць сайта і магчымасць яго манетызацыі павялічваюцца.

## Зноўку пра друкаваны выпуск

Наклад газеты сёння вагаецца ад 6700 да 7300 асобнікаў у сувязі з сезоннымі зменамі пакупніцкай актыўнасці. Агульная штотыднёвая аўдыторыя з улікам прачытання ў сем'ях складае 13 000–15 000 чытачоў (згодна з уласнаю аналітыкай і даследаваннямі сацыялагічнай лабараторыі «NOVAK»). У мясцовым канкурэнтным асяроддзі «БК» валодае найбольш устойлівым ядром сталых чытачоў — 80 %. Падпісчыкі складаюць ад 10 да 12 %.

Асноўныя ўзроставыя катэгорыі чытачоў друкаваных выпускаў «Брестского курьера» характарызуюцца наступнымі паказчыкамі: 18–24 гады — 13,2 %; 25–34 — 14,3 %; 35–44 — 26,9 %; 45–54 — 26,3 %; 55–64 — 9,5 %; 65 + — 9,8 %. Г. зн. ядро нашай чытацкай аўдыторыі складаюць найбольш актыўныя ўзроставыя групы. Пры гэтым, згодна з даследаваннямі «NOVAK», мужчынскі і жаночы сегменты нашай чытацкай аўдыторыі складваюцца прыкладна «фіфты-фіфты» (мужчыны — 50,6 %, жанчыны — 49,4 %). Хоць у той жа час «Брестский курьер» — хутчэй, «мужчынская» газета. Паказчык — вялікі паток рэкламы, звязанай з будаўніцтвам, аўто і рэальнаю справай увогуле. Дробныя рэкламадаўцы разглядаюць газету як пляцоўку, дзе іхныя тавары знойдуць плацежаздольнага пакупніка. Добрым паказчыкам таксама ёсць тое, што 54,4 % чытацкай аўдыторыі «БК» маюць вышэйшую ці няскончаную вышэйшую адукацыю («NOVAK»). У сферы іх інтарэсаў і захапленняў — імкненне ўдзельнічаць у дэмакратычных зменах у Беларусі, гісторыя сям'і, роднага горада (вёскі), краю, традыцыі і навіны культуры, жаданне спазнаваць свет праз падарожжы.



*Наталля Алейнікава, намеснік рэдактара*

Са свайго боку, мы пазіцыянуем газету як сучаснае еўрапейскае выданне, якое ёсць праваднікам аб'ектыўнай, аператыўнай і незалежнай інфармацыі, а таксама платформаю камунікацыяў грамадзянскай супольнасці і транслятарам чытацкіх меркаванняў і паведамленняў.

У нашых планах — прыцягненне да чытацкай аўдыторыі эканамічна актыўных грамадзян. Мяркуючы па рэальнай дынаміцы, у будучыні ўзрастуць транзітныя патокі грамадзян і грузаў праз Брэст. Цікавасць да аб'ектыўнай інфармацыі пра лагістыку, стан рэчаў на памежных пераходах і мытных тэрміналах павялічваецца. Мы маем канструктыўныя стасункі з консульствамі Польшчы, Расіі і Украіны ў Брэсце і хацелі б выкарыстоўваць гэта дзеля развіцця і папяровай, і інтэрнэт-версій газеты.

Нам уяўляецца, што неабходна развіваць наступныя кантэнтныя кірункі і ў друкаваных, і ў электронным выпусках «БК»:

- удасканальваць тэматычны дыяпазон выдання;
- актывізаваць зваротную сувязь з аўдыторыяю;
- захаваць культурна-гістарычны змест газеты, які шануецца чытачамі;
- пашыраць тэмы мяжы, мытні і лагістыкі.

У рэчышчы памежнага тэматычнага кірунку мы плануем развіць стасункі з польскаю прэсай Цярэспаля і Бяла-Падляскі. Перакрыжаваная рэклама падвысіць і іхную чытальнасць, і нашую. Акрамя таго, гэта ўзніме цікавасць да газеты эканамічна актыўнага насельніцтва.

## Эцюд пра чытача «БК»

«Не дадзена нам прадказаць, Як слова наша адгукнецца...» — гэтыя радкі напісаў рускі паэт Ф. Цютчаў у 1869 годзе, неўзабаве пасля таго як было скасаванае прыгоннае права і заканадаўча ліквідавалі цэнзуру ў Расійскай імперыі (аднак ненадоўга).


*Адказны сакратар Аляксандр Мікрукоў*

Бадай, у дачыненні да літаратуры гэта цалкам апраўдана — «не дадзена нам прадказаць…». Але ў журналістыцы, якая жыве іншымі часавымі катэгорыямі, прадказанне і вызначэнне перспектывы шляху да чытача — справа неабходная. На гэтым жывём і трымаемся. «Як слова наша адгукнецца…» — калі мы не будзем гэтага ведаць, рыхтуючы нашыя друкаваныя і электронныя версіі, тады і грашовых паступленняў чакаць не даводзіцца.

…Гэты чытач аднойчы патэлефанаваў мне і хрыплаватым басам выказаў некаторыя прэтэнзіі па адной з публікацыяў апошняга нумара «БК». Спачатку падалося, што гэта адзін з незанятых пенсіянераў, якія эпізадычна звоняць — ці то ад няма чаго рабіць, ці то дзеля таго, каб абазначыць сябе ў барацьбе за рэжым былога існавання. Пагутарылі. Абмяняліся «кампліментамі». На наступным тыдні ён зноўку патэлефанаваў. Пасля прачытання нашай газеты знайшоў у ёй свае плюсы і мінусы. Стала цікава. Распытаў яго і адчуў, што стары ў мяне выклікае інтарэс як чытач: не хіліць яго ніякім бокам ні ў румяны саветызм, ні да апазіцыі.

У самым канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ведаў я такога старога — Колесава Канстанціна Паўлавіча, франтавіка, які напісаў аповесць «Самаходка нумар 120» (яе надрукавалі ў маскоўскім часопісе «Октябрь» у 1989 годзе). Мы з ім у тую пару нямала пабадзяліся па брэсцкіх бульварах за размовамі пра жыццё і час.

Уладзілен Ціханавіч быў, мяркуючы па тэлефоннай гутарцы, падобны да Канстанціна Паўлавіча, які ў той час ужо ад'ехаў на сваю радзіму — у расійскае Паволжа. Але і свой характар, свае рысы, свая манера размовы ў майго новага знаёмага выяўляліся непаўторна. Паваяваць ён не паспеў па ўзросце. А адразу ж пасля вайны, калі ён быў прызваны, яго накіравалі ў групе армейскіх таварышаў па службе ў Тыбет, да манахаў Шааліня — засвойваць рукапашнае баявое майстэрства. Вядома ж, гэта мяне зацікавіла — папрасіў яго пра сустрэчу дзеля размовы пра тую пару яго армейскага лёсу. Ён адказаў: «Я не супраць, але трэба ўзгадніць…» Праз некаторы час, калі мы чарговы раз стэлефанаваліся, сказаў: «Пакуль забаронена, рэжым сакрэтнасці захоўваецца…»

Званкі сталі штотыднёвымі. Уладзілен Ціханавіч выступіў своеасаблівым камертонам нашых публікацыяў і аглядальнікам выпускаў газеты: «А вось Пуцін сустракаўся з Лукашэнкам і сказаў, што…»; «Тут нядаўна газ перакрывалі на Беларусь. Што Вы пра гэта думаеце?..» Стары разважаў


Карэспандэнт Алег Супрунюк

маштабна, геапалітычна. І ў той жа час неяк папросту, жыццёва.

Я на рэдакцыйных планёрках распавядаў пра званкі, пра меркаванні, якія Уладзілен Ціханавіч выказваў. Усе з вялікаю цікавасцю гэта ўспрымалі, пэўным чынам нават мяняючы стылістыку сваіх публікацыяў.

Праз нейкі перыяд нашых зносінаў Уладзілен Ціханавіч паведаміў, што цяпер з яго падачы ў двары склаўся «клуб старых» — чытачоў «Брестского курьера». Чытаюць, абмяркоўваюць, спрачаюцца, пярэчаць. Прапаноўваюць тэмы і ідэі публікацыяў па палітыцы і сучасных падзеях, але болей па сацыялцы, пенсіях, бальнічным абслугоўванні, гарадской гаспадарцы. Гэта было карысна і прадуктыўна — асабліва калі «клуб старых» падкідваў канкрэтыку па актуальных праблемах.

Уладзілен Ціханавіч да таго ж заклапаціўся пра рэалізацыю нашага выдання ў суседніх з ягоным домам гандлёвых пунктах — паведамляў пра продаж накладаў і падказваў, дзе трэба павялічыць падвоз газет.

Пікавым перыядам нашых стасункаў стаў момант, калі «Брэстсаюздрук», даведаўшыся, што мы больш актыўна сталі працаваць з гандлёвымі сеткамі акрамя гэтай арганізацыі, раптам у якасці «пакарання» паменшыў замову «БК» у гарадскія шапікі на дзве трэці. Уладзілен Ціханавіч, паглыбіўшыся ў гэтую праблемную сітуацыю, развіў бурную дзейнасць. Спачатку ён папрасіў: «Дайце-ка мне тэлефон гэтага дзеяча, што вам палкі ў колы ставіць…» Спакойнае жыццё кіраўніка «Брэстсаюздрку» на гэтым скончылася. Старыя тэлефанавалі яму рашуча і сурова, з выкарыстаннем ветэранскай аргументацыі, так што ім з гэтай арганізацыі нават паабяцалі дастаўляць газету па хатнім адрасе бясплатна. Ад гэтага старыя адмовіліся, патрабуючы аднаўлення справядлівасці ў дачыненні рэалізацыі «БК» праз шапікі. І праз некаторы час замова на нашую газету была аднаўлена ў былым аб'ёме.

Тры гады працягвалася нашае завочнае тэлефоннае сяброўства з Уладзіленам Ціханавічам. Часам узнікалі паўзы — тады я сам, занепакоіўшыся, тэлефанаваў і даведваўся, што мой суразмоўца трапіў у рэанімацыю па здароўі. А праз дзень-другі зноўку чуў у слухаўцы ягоны хрыплаваты бас: «Аляксеіч, пра што ў гэтым нумары пішаце?..» Акрамя нашага газетнага жыцця-быцця мы гутарылі з ім на самыя розныя тэмы: пра гісторыю, пра літаратуру. Стары аказаўся аматарам паэзіі, а калі я перадаў яму праз кур'ера сваю кнігу вершаў, ён прыхапіў яе ў шпіталь на чарговае «адлежванне» (такім чынам ён гэта называў) і паведаміў потым, што гэта таксама для яго было «лекавым зеллем».

…Восеньскаю раніцой прагучаў званок — сумны жаночы голас паведаміў: «Памёр уначы наш Уладзілен Ціханавіч. Крыху не дажыў да васьмідзесяці. Пахаванне заўтра…» Выведаўшы ў жонкі старога, што тэлефанавала мне, адрас, я, вядома ж, прыйшоў у прызначаны час развітання. Кляновы дворык паблізу ад Брэсцкага парку быў праняты лістападаўскім сонцам. І я ўпершыню ўбачыў нашага Чытача — у апошнім спачыне. Ходарлявы высакародны профіль. Ляжаў нябожчык у форме чыгуначніка, ва ўзгалоўі была пакладзеная фуражка. Праводзіць яго прыйшло няшмат людзей, але гэта быў якраз той «клуб старых», у якім лідарстваваў Уладзілен Ціханавіч. І было светла ад апошніх лістоў восені, і ад паўдзённага сонца, і ад адчування роднасці з чалавекам, які падарыў мне разуменне Яго Вялікасці Чытача…


*Наш галоўны бухгалтар Наталля Сарока*

P. S. Калі вы мяркуеце, што людзі самавітага ўзросту чытаюць толькі друкаваныя выпускі газет, то хачу паведаміць, што цяперашнія пенсіянеры паспяхова засвойваюць інтэрнэт. Як распавяла нам наша сталая чытачка Юлія Паўлаўна Бухцеева, брэсцкі ўрач-кардыёлаг, яна не толькі не прапускае папяровых выпускаў газеты, але і ў інтэрнэце ўвесь час наведвае нашу старонку. І рэкамендуе яе сваім калегам.

## Дзеля каго мы робім газету?

Наўрад ці хто-небудзь будзе аспрэчваць, што адказ на гэтае пытанне можа быць толькі адзін: дзеля чытачоў.

Але калі сур'ёзна прааналізаваць змест рэгіянальнай беларускай прэсы — і дзяржаўнай, і недзяржаўнай, — то часам можна выявіць у ёй матэрыялы з зусім іншай адрасоўкаю, у спектр якой уваходзяць:

а) прадстаўнікі дзяржаўнай улады розных узроўняў, пачынаючы з райвыканкамаўскага чыноўніка і заканчваючы прэзідэнтам (матывацыі — эканамічная і ідэалагічная залежнасць дзяржвыданняў ад дзяржструктур, боязь страціць дастаткова высокааплатную працу, кар'ернае імкненне прасунуцца па службовай лесвіцы);

б) персаналіі і аб'екты публікацый (матывацыі — жаданне спадабацца фігуранту і атрымаць праз гэта пэўную выгоду, боязь негатыўнай рэакцыі і непрыемных наступстваў);

в) заснавальнік, выдавец, галоўны рэдактар ці прадстаўнікі кіраўніцтва СМІ (падставы — аўтарытарны стыль кіравання рэдакцыяй, нізкі творчы патэнцыял супрацоўнікаў);



*Намеснік рэдактара Валерый Малочнікаў і карэспандэнт Юрый Шапран*

г) партыі, рухі, палітычныя і грамадскія дзеячы (падставы — партыйная прыналежнасць альбо партыйныя сімпатыі, фінансавая залежнасць ці фінансавыя чаканні, «барыкадная» псіхалогія галоўнага рэдактара ці аўтара);

д) рэкламадаўцы (матывацыя — фінансавая выгода);

е) сам аўтар публікацыі (матывацыі — комплекс нарцыса, няўменне зірнуць на тэму вачыма чытача).

Але, па сутнасці, асноўная прычына ўсіх гэтых зрухаў арыенціра — непрафесіяналізм галоўных рэдактараў, выдаўцоў і аўтараў публікацыяў таго ці іншага выдання.

Давер чытацкай аўдыторыі — галоўны капітал газеты, гарантыя яе эканамічнай стабільнасці. Кожны фальш, усялякія хітрыкі журналістаў рэзануюць у чытацкім асяроддзі і адгукаюцца зніжэннем продажаў накладаў, адтокам рэкламадаўцаў, праблемамі эканамічнага кшталту ў газетным механізме.

«Добра пісаць — выгодна», — сказаў аднойчы К. Чукоўскі, аўтар «Мухі-Цакатухі» (якая грошыкі знайшла). Ведаць, дзеля каго пісаць — дзеля масавай аўдыторыі, асобных груп ці асобаў, — не меней выгодна.

## Хто наш чытач?

Такім чынам, пагодзімся апрыёры, што мы пішам дзеля масавай аўдыторыі, дзеля ўсіх чытачоў, а калі дакладней — дзеля тых людзей, якія гатовыя выдаткаваць на наш газетны прадукт некаторую суму грошай наўпрост зараз ці ў недалёкай будучыні.

Выданне, якое дзейнічае разумна, здольнае не толькі задавольваць патрэбы чытача, але і фармаваць іх. Калі мы даследуем чытацкае асяроддзе, то гэта дазволіць ранжаваць структуру газеты паводле жанраў, тэм, рубрык, кампазіцыйнай пабудовы і ў выніку адпавядаць запытам аўдыторыі.

Чалавек як істота, што думае, — структура шматслойная. Значыць, каб адпавядаць яго густам, газета мусіць быць разнастайнаю, разлічанай на розныя іпастасі адной і той жа асобы.

1. HOMO SAPIENS (чалавек разумны) адчувае патрэбу ў інфармацыі, якая дае яму магчымасць пазнаваць свет, арыентавацца ў ім, выжываць, удасканальвацца, будаваць кар'еру і г. д. Патрэба ў інфармацыі першаступенная і сталая.

У газеце інфармацыйныя патрэбы чытачоў задавальняюцца праз сціслыя навінавыя паведамленні, каментары, аналітычныя матэрыялы, журналісцкія даследаванні, агляды, рэпартажы, інтэрв'ю, дарожныя нарысы, афіцыйныя звесткі, фатаграфіі, дыяграмы, табліцы, графікі, курсы валют, прагнозы сіноптыкаў і інш. І, падкрэсліваю, у газеце гэта найбольш важная частка, на якой грунтуецца ўся канструкцыя выдання.



*Ірына Лепяцюха, супрацоўнік аддзела рэкламы*

2. HOMO SOCIUS (чалавек грамадскі) адчувае патрэбу ў камунікацыі. Чалавеку неабходныя кантакты, сувязі з іншымі людзьмі, уключанасць у разнастайныя сацыяльныя групы, увага і пашана, ён жадае быць пачутым і запатрабаваным як асоба, ён зацікаўлены ў перадачы досведу, шырокім выкарыстанні сваіх распрацовак і ідэй.

Гэтая чытацкая патрэба ў камунікацыі — крыніца новых тэмаў і ідэй, падвышэння накладу выдання. Яна задавальняецца за кошт сістэмы зваротнай сувязі з чытачом, публікацыі чытацкіх лістоў і меркаванняў, анкетавання, апытанняў і сацдаследаванняў, тэлефонных «гарачых ліній», конкурсаў (гульнёвыя, літаратурныя, фота, гумару, агароднікаў, рыбаловаў і інш.). У прынцыпе, рэестр ідэяў супрацоўніцтва газеты з чытачамі невычарпальны — гэта залежыць ад ініцыятывы і творчай фантазіі. Напрыклад, у «Брестском курьере» мы ладзілі конкурсы фатаграфіяў дзяцей, чатырохногіх гадаванцаў, прыпевак, жыццёвых баек, гумарыстычных вершаў у стылі японскіх танку («Куды, куды, — шапчу, — вы аддаліліся: дынары, франкі, долары і ены? Якія рукі гладзяць вас цяпер?»). Чытачы заўсёды ахвотна ўдзельнічаюць у гэткіх конкурсах.

На падставе чытацкіх меркаванняў, лістоў, тэлефонных званкоў, анкетных апытанняў мы практыкуем падрыхтоўку злабадзённых матэрыялаў, даследуем тую ці іншую праблему (напрыклад, пытанні працы гарадскога транспарту). Такім чынам чытач не застаецца пасіўным спажыўцом друкаванай прадукцыі, а ўключаецца ў працэс стварэння газеты, становіцца нібы чальцом газетнага клуба. Гэткі шлях узаемадачыненняў з чытачамі карысны яшчэ і тым, што паступова ствараецца сталае кола пазаштатных аўтараў, дый проста добрых сяброў, якія, калі трэба, дапамогуць у правядзенні нейкага рэдакцыйнага мерапрыемства.

А якія патрэбы чалавека — інфармацыйныя альбо камунікатыўныя — задавальняе публікацыя рэкламы, прыватных аб'яваў, праграм тэлебачання, раскладу руху транспарту, афіцыйных паведамленняў разнастайных ведамстваў і дзяржструктураў? І першыя, і другія ў роўнай

## ЭТЫЧНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ «БК»

1. Пішы не дзеля рэдактара, не дзеля «дзядзькі з вертыкалі» і не дзеля самога сябе ўлюбёнага. Пішы дзеля чытача і будзь упэўнены, што ён не дурнейшы за цябе.

2. Не прыніжай таго, пра каго пішаш, злоснымі ярлыкамі, непрыстойнымі намёкамі і грубымі эківокамі, нават калі ён — поўная жывёліна. Будзь вышэй і аддзяляй грэх ад носьбіта граху.

3. Можаш патрабаваць ад рэдактара падвышэння аплаты сваёй працы. Але барані Божа браць хабар грашыма альбо шчанятамі-хортамі ад суб'ектаў публікацыі.

4. Давярай інфарматарам, але пераправярай атрыманую ад іх фактуру, асабліва якая «з полымя, з жару». Паспяшаешся — суды насмешыш.

5. Не згадвай марна, асабліва ў крымінальнай інфармацыі, найменні фірмаў і прадпрыемстваў, калі няма істотнай падставы.

6. Рыхтуючы публікацыю пра канфлікт бакоў, выслухвай абодва і не паддавайся эмацыйнаму націску ніводнага з іх. Не зачароўвайся статусам альбо абаяльнасцю тых, хто запэўнівае цябе ў сваёй рацыі.

7. Шануй калодзеж у садзе, а сябе ў грамадзе. Не падводзь сваё выданне непрыстойнымі паводзінамі і бескультурнасцю. Ты — журналіст і паўпрад брэнду — не 8 гадзінаў у суткі, а ўсе 24.

8. Паважай старых, не грузі іх мудрагельствамі і незразумелымі словамі ў сваіх публікацыях, стаўся ашчадна да іхнага мінулага.

9. У дачыненні нацыянальнай альбо рэлігійнай прыналежнасці будзь асабліва асцярожны і ўважлівы ў ацэнках, вызначэннях, высновах.

10. Адзіны твой сюзерэн — сумленне журналіста. Так што не трасі камзолам перад тронамі. Але і ў Робін Гуда не гуляй.



Калектыў «БК»

ступені. У гэтай сітуацыі атрымліваецца, што, напрыклад, прадпрымальнік, што прапануе ў аб’яве паслугі відэаздымкі, імкнецца знайсці кантакт з найбольшым колам людзей (патэнцыйных замоўцаў), а чалавек, які чытае гэтую аб’яву, усяго толькі шукае неабходную спажывецкую інфармацыю.

3. HOMO LUDUS (чалавек, які гуляе) адчувае патрэбу ў забаве. Ці трэба тут штосьці тлумачыць?

У газеце ён знойдзе красворды, галаваломкі, гумар у розных жанрах, карыкатуры, гараскоп, забаўляльныя конкурсы, навіны пэўнага кшталту (забаўныя выпадкі, падрабязнасці з жыцця знакамітасцяў) і інш.

Attention! Журналісту ісці па шляху забаў прыемна, але небяспечна: сцежачка гэта коўзкая. Вельмі важна трымацца меры і густу, не скаціцца ў непрыстойнасць, не паўтараць «барод». Парада адна: лепей меней, ды танчэй. І, дарэчы, лёгкі дазаваны сцёб карысны і ў сур’ёзных матэрыялах. Гэта як перчык у талерцы наварыстага ўкраінскага баршчу.

4. HOMO FAMILIARIS (чалавек сямейны) адчувае патрэбу ў сям’і. Кожны сацыёлаг пацвердзіць, што сям’я ў рэестры чалавечых каштоўнасцяў стаіць на першым месцы. Гэта не толькі першасная ячэйка грамадства — гэта асаблівы духоўны свет, адмысловая сістэма ўзаемадачыненняў.

У газеце задавальненню гэтай патрэбы служаць публікацыі на сямейныя тэмы, парады псіхолагаў і медыкаў, кансультацыі па вядзенні хатняй гаспадаркі, кулінарныя рэцэпты, шлюбныя аб’явы, дзіцячыя старонкі, рубрыкі па агародніцтве, рыбалоўстве, хатніх забавах і захапленнях.

5. HOMO SPIRITUS (чалавек духоўны) адчувае патрэбу ў духоўным пажытку. Гэта вельмі важная патрэба, задавальненню якой служаць літаратурныя жанры (вершы, проза, эсэ), матэрыялы пра гісторыю сем’яў, краю, месца жыхарства.

Зразумела, гэтымі пяццю пунктамі спіс чалавечых патрэбаў не абмяжоўваецца. Вы можаце самі яго працягнуць і развіць. Аднак і гэтых пяці, я лічу, ужо дастаткова, каб скласці стратэгію і структуру зместу газеты, якая прэтэндуе на ўніверсальнасць. Але маюць права на існаванне і тыя выданні, якія нацэленыя на задавальненне не ўсіх пяці, а ўсяго толькі адной-дзвюх патрэбаў (газеты дзелавога характару, забаўляльныя, сямейныя, па дамаводстве, вузкапрофільныя, інфармацыйныя веснікі і г. д.).

Задавальненне вышэйпералічаных чалавечых патрэбаў пры дапамозе газеты, вядома, прадугледжвае і пэўныя тэматычныя прапорцыі. Колькі газетнай плошчы адвесці на інфармацыйныя матэрыялы? А на раздзел «Зваротная сувязь», на сямейную тэматыку?.. Кожны рэдактар мае права сам вызначаць гэтыя прапорцыі.

Калі ў вас ёсць немалы капітал, смела можаце выдаваць 120-старонкавую газету «Нью-Васюкі Дэйлі», у якой усе тэматычныя кірункі будуць прысутнічаць поўнаметражна. Калі ж аб’ём газеты складае ўсяго 24 старонкі фармату А3, то асабліва па тэматыцы не разбяжышся. У нашым «БК» мы прыйшлі да варыянта «елачкі» (намалюйце яе і падзяліце ствол на пяць роўных частак), у якой пункты з першага па пяты ідуць ад асновы да вяршыні па конусе, што паступова звужаецца. У адпаведнасці з гэтым памяншаецца і аб’ём размяшчэння дадзеных тэматычных кірункаў у кожным выпуску газеты.






*Настасся МАЦЯШ*

# Мова: на што арыентавацца?

**Раней часта даводзілася чуць ад журналістаў закіды да добрых з гледзішча стыль-рэдактуры тэкстаў: «У нашай вёсцы так не гавораць, а таму нічога не зразумеюць». Цяпер звычайна кажуць: «Нас так у школе не вучылі». Ці заўсёды за гэтым стаіць клопат пра чытача / слухача / гледача? І ці могуць вёска і школа быць крытэрам пры ацэнцы мовы журналісцкага твора?**

Па-першае, у беларускай мове, як у любой іншай, ёсць дыялекты і гаворкі. Дый, па вялікім рахунку, у кожным паселішчы — «свая мова». Дык на чыю вёску арыентавацца пры выбары моўнага факта? На вёску журналіста, рэдактара ці далёкага, напрыклад, слухача з паселішча Зацвілішкі? На якую нямецкую вёску арыентуюцца «Deutsche Welle» або ўплывовая «Die Welt»? Ці ёсць у Брытаніі мястэчка, мовай якога гавораць на «Бі-бі-сі»? Для таго і існуе літаратурная мова, каб аб’яднаць гаворкі. Літаратурная мова — наддыялектная.

Па-другое, русіфікацыя даўно зрабіла сваю справу, і акурат гарадскія культурніцкія асяродкі нярэдка лепей перахоўваюць моўную спадчыну і мацней трымаюцца моўнай культуры. Згадваю старэнькую бабулю з вёскі Кулакі, што на Салігоршчыне, якая з асуджэннем паставілася да маёй спецыяльнасці: «Не наравіцца мне эты беларускі язык, не наравіцца…» У сённяшняй культурнай сітуацыі найчасцей беларуская мова гарадскога чалавека — ягоны свядомы выбар. Адпаведнае і ўважлівае стаўленне да гэтага свайго выбару, зацікаўленасць моўнымі пытаннямі, адкрытасць да навучання, гнуткасць — у супрацьвагу традыцыйнасці ды пэўнай закрытасці мовы вёскі.

Зрэшты, з гэтай традыцыйнасці таксама варта карыстацца — дзеля стылістычных мэтаў. Калі рыхтуюцца тэматычныя рэпартажы на гістарычныя, культурніцкія тэмы, добра ўводзіць у тэкст мясцовыя словы, а нават і пераймаць мясцовую гаворку — каб надаць матэрыялу каларыту. Мясцовыя гаворкі могуць быць і крыніцай адметных беларускіх словаў, не надта распаўсюджаных у беларускамоўнай прасторы і нават не вядомых шырока. Арыентацыя на мову вёскі мусіць працаваць на **пашырэнне** слоўнікавага запасу журналіста і, адпаведна, адрасата інфармацыі, а не на звужэнне. Мова пэўнай мясцовасці не мае выступаць як абмежавальнік у працы медыяў.

А што ў школах? Сітуацыя выглядае сумна. Навучанне беларускай мове застаецца ў рэчышчы мацёрых савецкіх традыцыяў. Мову выкладаюць людзі, якія звычайна не карыстаюцца ёю па-за школьнымі сценамі. І нярэдка не настаўнік вучыць мове дзіця з беларускамоўнай




сям'і, а наадварот... Таму і ўзнікаюць наступныя сітуацыі: у беларускамоўнай (sic!) гімназіі зніжаюць адзнаку, перапраўіўшы слова *ратаўнік* на *выратавальнік*. Тая ж настаўніца піша заўвагу ў дзённіку: «Нез**а**дав. паводзіны» ды «Нездавальня**юч**ыя паводзіны па бел. мове на ўроку». Так-так, з неўласціваю беларускай мове формаю на **-юч-**. Агулам, які сэнс апошняй заўвагі? Ці могуць існаваць у прыродзе «паводзіны па беларускай мове»?! І такіх прыкладаў — працьма. Інерцыя, зацятасць настаўнікаў, неразуменне імі ўсёй глыбіні праблемы беларускай мовы ў нашым грамадстве не спрыяюць любові да роднай мовы сярод вучняў. Нягледзячы на станоўчую тэндэнцыю — паспяховую працу праектаў «Мова нанова» і «Мова ці кава», закліканых навучаць дарослых беларускай мове, — у школе прадмет застаецца сярод найменш рэйтынгавых. Дык будзем арыентавацца на школьную мову ў сваёй працы? Мяркую, зусім не варта.

Адсыланні да вёскі і школы ў пераважнай большасці выпадкаў не сведчаць пра тое, што журналіст пераймаецца за адрасата інфармацыі. Гэта звычайны ўнутраны пратэст аўтара супраць новага, абарона «майго тэксту». Журналісты, людзі адкрытыя і гатовыя да зменаў у іншых пытаннях, чамусьці бываюць надзвычай закасцянелыя што да ўяўленняў пра мову. А рэцэпт лекавання гэтай «хваробы» просты: можна вымавіць незнаёмае слова 10 разоў, і яно стане пазнавальным. 20 разоў — і яно не будзе нязвыклым. А пасля 30 — пачняце ўжываць яго, быццам заўсёды ведалі. І ваш матэрыял, і нашая мова толькі выйграюць! Напрыклад, можна сказаць звыкла, як вучаць у школе і як зразумеюць у кожнай вёсцы: *вузы братэрства*. А можна — *братэрскія повязі*, пагатоў па-беларуску *вуза* — тое ж, што і *клетка* ў біялагічным значэнні. Можна ўжыць лексему *перамір'е*, а можна — *замірэнне*, з добрым беларускім словаўтварэннем. Людзі *замірыліся*, больш не ваююць. Можна абраць калькаванае слова *абвергнуць*, а можна нашае — *зняпраўдзіць*. І цяжка ўявіць сітуацыю, у якой чалавек не зразумее, пра што гаворка. Кожнае слова ўжываецца ў кантэксце, які падказвае нам значэнне. Дый значэнне хаваецца ў будове слова: *зняпраўдзіць* — зрабіць непраўдзівым. Так што ўсё не гэтак страшна, як падаецца пры сустрэчы з незнаёмым словам.

## «Унутраны лесаруб»

У кожным з нас унутры сядзіць кантралёр (я называю яго «ўнутраным лесарубам»), што і дыктуе нам адгаворкі пра вёску, школу і «простага чалавека», да якога мусіць «дайсці» змест медыйнага паведамлення і які a priori кепска ведае беларускую мову. Менавіта ён, «унутраны лесаруб», дыктуе нам: скрэслі добрае беларускае слова, уласцівую беларускай мове канструкцыю і замяні русізмамі ды калькамі з расейскай. Але шматгадовы досвед пераканаў мяне: зусім не «нязвыклыя» словы псуюць матэрыял і робяць яго непразрыстым. Вось з чым варта сапраўды ваяваць, дык гэта з нагрувашчанымі канструкцыямі, поўнымі штампаў, сказамі на некалькі радкоў, лішнімі словамі, «упрыгажэнствам». А сэнс нязвыклага слова выдатна тлумачыцца празрыстым кантэкстам.

Нельга слухацца «лесарубаў», унутраных «простых людзей», увесь час зніжаючы моўную планку праз боязь застацца незразумелым. Гэтак узровень мовы сродкаў масавай інфармацыі будзе імкнуцца ў мінусавую зону. Медыі мусяць падцягваць чытача / слухача / гледача, трымаючы планку заўсёды крыху вышэй за ўзровень аўдыторыі (а ў некаторых выпадках і за ўзровень журналіста).

Журналіст просіць замяніць у матэрыяле слова *пасад* на слова *трон*, бо нехта можа падумаць, што ідзецца пра *пасаду*. Але ж *пасад* і *трон* — два розныя словы з розным значэннем. Адмаўляцца ад лексічнай адзінкі толькі таму, што ў кожнай мове ёсць паронімы (словы сугучныя, але розныя значэннем), — абсурд. Гэтак жа тады мусім абыходзіцца без слова *прэцэдэнт*, бо яно падобнае да лексемы *прэтэндэнт*, без словаў *арэал* — *арэол*, *забавіцца* (прыпазніцца) — *забаўляцца*, *інтрыганскі* — *інтрыгоўны*, *назнарок* (наўмысна, сумысля) — *незнарок*, *пражэктар* — *пражэкцёр*.

Нельга забываць, што мова — гэта не толькі сродак, які дазваляе данесці інфармацыю. Матэрыял журналіста фармуе моўныя ўяўленні атрымальніка інфармацыі. І таму важна, каб СМІ мела акрэсленую моўную палітыку, задавала свой моўны канон, які будзе працаваць на беларушчыну і адкідаць русіфікатарскія падыходы. І таму трэба навучыцца прыслухоўвацца да парадаў стыль-рэдактара, які і мае пільнавацца гэтага канона. Тое, якою будзе беларуская мова — калькаваным паўмоўем савецкіх газетаў ці свабоднаю ад штампаў і ўпярэджанняў («предубеждений»), — залежыць ад нас з вамі.

# Самая антыкультаўская аповесць Васіля Быкава
## ўпершыню выйшла без цэнзуры



*Сяргей ШАПРАН*

**У 1965 г. Васіль Быкаў напісаў адну з самых знакамітых сваіх аповесцей — «Мёртвым не баліць», якая пасля публікацыі амаль на два дзесяцігоддзі была забароненая. Зноўку твор выдалі толькі ў 1982 г. — і з тымі купюрамі, якія зрабіла цэнзура яшчэ ў 1965-м. Больш за тое, да гэтых купюр дадаліся новыя. Сам Быкаў шкадаваў, што згубіўся першы варыянт «Мёртвым не баліць», аднак насамрэч ён захаваўся, і знайшлі яго пасля смерці пісьменніка. Менавіта паводле гэтай рэдакцыі аповесць і выйшла амаль праз паўстагоддзя ў выдавецтве «МЕДЫЯЛ» пры падтрымцы мецэната Паўла Бераговіча і пры непасрэдным удзеле Глеба Лабадзенкі.**

### Антыкультаўская, антываенная

Над новым творам, які Васіль Быкаў называў найбольш аўтабіяграфічным з усяго ім напісанага, ён пачаў працаваць у 1964 г. Першы творчы імпульс прыйшоў у Мінску, па дарозе з Масквы дадому, — Быкаў прыгадваў: «Паміж цягнікамі ў мяне быў вольны час, і я зайшоў у рэдакцыю “ЛіМ”, дзе застаў аднаго толькі галоўнага рэдактара Нічыпара Пашкевіча. Пачалася размова, падчас якой Нічыпар выявіў поўны антаганізм да маіх думак-поглядаў, што я вёз з Масквы. Апроч хіба адной — пайсці і разам выпіць. За рэстаранным сталом дыскусія працягвалася болей мірная, мы амаль паразумеліся, і, калі зайшла гаворка пра вайну, я распавёў партызану-камсоргу Пашкевічу эпізод майго ранення пад Кіравабградам. Гэта як доказ таго, што і на фронце хапала ліха. Змораны гаворкай і вячэрай, Нічыпар лагодна сказаў, мабыць, каб скончыць спрэчку: “Ну во, амаль гатовая аповесць”. Пасля, едучы цягніком у Горадню, я пачаў над тым думаць і вырашыў паспрабаваць напісаць.

Я не ведаў яшчэ, што гэта будзе — апавяданне, аповесць ці, можа, які ўспамін. Але намер напісаць засеў у галаве моцна».

Першая назва аповесці — «Ноч пасля свята» (ужо пасля смерці пісьменніка ў той кватэры, дзе ён некалі жыў у Гродне, была знойдзена нават чарнавая рэдакцыя «Мёртвым не баліць», дык на папцы, дзе яна захоўвалася, рукой Быкава напісана: «Черновик “Ночи после праздника”»). Адмовіцца ад гэтай назвы аўтару параіў галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Пімен Панчанка — у «Маладосці» аповесць упершыню і выйшла, і менавіта тут была зроблена большасць купюр цэнзурнага характару. Што тычыцца назвы, дык Быкаў пісаў Панчанку: «Назва сапраўды трохі з падтэкстам, я гэтага не зразумеў раней. Відаць, трэба вярнуцца да ранейшай — “Мёртвым не баліць”». Дарэчы, у тым жа лісце ён заўважаў: «Ваш ліст мяне вельмі ўзрадаваў. Патроху я



*На адвароце фотаздымка надпіс рукой В. Быкава: «Отцу и Матери от сына. Война Отечествен[ная]. Осень 1944 г.». ВАКМ. Н/в 8814/7*

пачынаю прывыкаць да думкі, што ў гэты раз няўдача мяне абмінула. А то ўжо, прызнацца, было такое прадчуванне, і перш за ўсё па той прычыне, што далёка не ўсё атрымалася ў аповесці, як хацелася. З другога боку, я добра разумею, што з'явілася яна вельмі не ў час. Трэба было раней ці пазней. Цяпер жа на ўсіх хвалях грымяць бравурныя творы пра перамогу, гераізм і авангардную ролю». Зрэшты, аўтар «Мёртвым не баліць» гэта прадбачыў — яшчэ падчас рэдагавання твора ў «Маладосці» ён паведамляў у лісце да сябра Алеся Адамовіча: «"Маладосць" тоже не проявляет энтузиазма, видимо, побаивается. Действительно, повесть не для юбилейных лет — антикультовская и антивоенная. Так что кое в чем я даже сочувствую редакторам».

Аднак трэба сказаць, што падчас працы над творам над аўтарам вісеў дамоклаў меч не толькі цэнзуры, але і самацэнзуры. Так, у студзені 1965 г. Быкаў паведамляў крытыку Ванкарэму Нікіфаравічу: «А я пацiху пiшу. Праўда, скончу яшчэ не хутка — праз месяц, другі. Не ведаю, што атрымаецца. Рызыкоўны вобраз асабіста я ўжо перарабіў. Пасля "Пасткі" вырашыў абыходзіць такія павароты, бо ўсё роўна іх ламаюць у рэдакцыях, а гэта горш, чым калі зробіш (паламаеш) сам. Праўда, тое, што хачу, я ўсё роўна скажу. Не праз той, дык праз другі вобраз. Рознай пошасці, на шчасце ці няшчасце, у нас хапае».

Што да «Пасткі», дык у гэтай аповесці таксама нешчаслівы лёс: напісаная ў 1963 г., яна была адрэдагаваная ў «Маладосці», аднак апублікаваная не была. «Пастка» выйшла толькі праз два гады, прытым фінал яе быў перароблены: калі ў ранейшай рэдакцыі галоўны герой, лейтэнант Клімчанка, які трапіў у нямецкі палон, скончыў жыццё самагубствам, дык у пазнейшай версіі ён не толькі застаўся жыць, але і быў выратаваны камандзірам роты ад смершаўца. Зразумела, што, працуючы над новым творам, дзе асабіст быў ужо адным з цэнтральных персанажаў, Быкаў не мог забыцца пра гісторыю з «Пасткай», і, напэўна, менавіта гэтая акалічнасць прымусіла яго ўнесці практычна ў апошні момант істотныя папраўкі ў чарнавую рэдакцыю «Мёртвым не баліць». Так, у чыставой версіі аповесці Сахно прадстаўлены проста як «штабны афіцэр», яго пасада фігуруе толькі ў чарнавым варыянце: намеснік камбата, — хаця першапачаткова Сахно быў названы смершаўцам. Аднак СМЕРШ быў выкраслены пісьменнікам яшчэ ў чарнавой версіі, прычым — неаднойчы. Выкрэсліваў Быкаў і шматразовыя спасылкі на сумна вядомы загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага пад нумарам 227, які савецкая прапаганда называла «Ни шагу назад!». Гэты жудасны загад забараняў пад пагрозай расстрэлу любое адступленне. На яго падставе стваралі штрафныя батальёны і загараджальныя атрады, якія павінны былі расстрэльваць байцоў Чырвонай Арміі ў выпадках іх панічнага адступлення. Пісаць пра гэта забаранялася, таму зразумелая адсутнасць такіх эпізодаў і ў чыставой рэдакцыі, і, вядома, у публікацыях. Вось рэпліка аднаго з галоўных персанажаў аповесці — капітана Сахно: «У палон паздавацца? Дудкі! Не будзе выйсця — кулю ў лоб! Вось! Не хопіць адвагі — мне далажы! Я памагу. Не ў бірулькі гуляем. Вайна, чорт пабяры!»

## «Не той матэр'яльчык»

Што тычыцца рэдактуры ў «Маладосці», дык тут найперш і неаднойчы былі выкрасленыя імёны Сталіна і яго памагатага Берыі. Выразалася і кожная згадка пра «культ», бо чытач 1960-х гадоў адразу разумеў, што гаворка ідзе пра культ асобы Сталіна, пра што дзесяць гадоў таму адкрыта заявіў Мікіта Хрушчоў. Што ж тычыцца вобраза штабнога афіцэра Сахно, дык ён знаходзіўся, мусіць, пад самым пільным наглядам рэдактараў. Таму і прыбіраліся шматлікія быкаўскія негатыўныя ацэнкі Сахно, кшталту: «Сахно быў наша няшчасце, наша кара, яго ніхто не любіў і многія баяліся»; «Няўжо ён такі і павінен быць паводле ягонай пасады? Якая тады нялюдская тая пасада!»; «А Сахно? Ці бачыць ён сваіх хлопчыкаў? Тых, што пагінулі ад яго і праз яго?»

Аналагічны лёс напаткаў і вобраз своеасаблівага двайніка Сахно — былога старшыні Ваеннага трыбунала Гарбацюка, якога галоўны герой Леанід Васілевіч памылкова прымае за Сахно і наступным чынам яго характарызуе: «…відаць па ўсім, ён — недалёкі, прамадушны, некалі, мабыць, даволі зубаты, хоць цяпер тыя зубы парадкам прытупіліся»; «Ягоныя развагі знаёмыя мне яшчэ з тых часоў. Надзіва, за дваццаць год яны не змяніліся. Мяняліся людзі, адбываліся рэвалюцыі, чалавецтва прарвалася ў космас, вызваліла ўнутрыатамную энергію. А тыя сталінскага толку драпежныя ў адносінах да чалавека погляды працягваюць жыць у ім якісцінныя. Ну і трапіўся мне франтавічок!» Словы гэтыя адрасуюцца Васілевічам Гарбацюку, які ў адказ на пытанне: «А калі сволачы вынішчалі народ, вы таксама лічылі гэта










*Малюнкі В. Быкава. 1993 г.*
*Архіў В. Быкава*

справядлівым?» — пачынае трымцець: «А гэта не нашага розуму справа! То была дзяржаўная палітыка. Што ў ёй не так — партыя паправіла». Ці варта казаць пра тое, што ў публікацыях аповесці ад гэтых слоў Гарбацюка не засталося і следу?

Прыкладаў наўпраставага ўмяшання цэнзуры ў «Мёртвым не баліць» мноства: па-за межамі публікацый апынуліся не толькі разважанні пра нядаўняе мінулае, «калі сволачы вынішчалі народ» і гэта было «дзяржаўнай палітыкай», але і афарыстычныя чатыры сказы: «Часы мяняюцца. Вы хацелі паесці сыта. А мы — жыць справядліва. Невялікая, але ўсё ж розніца», — якія самім жа аўтарам, мусіць, па патрабаванні рэдактараў былі перапісаныя на зусім ужо просценькае: «Калі наясіся дасыта, дык захочацца і жыць па справядлівасці». Ці, напрыклад, падчас размовы старшыні Ваеннага трыбунала Гарбацюка з міліцыянерам першы кажа: «Я сведка! Я чалавек асаблівага даверу. Гэтага дастаткова», — аднак міліцыянер не пагаджаецца: «Вы памыляецеся, грамадзянін. Гэтага недастаткова. Не тыя часы». І вось якраз апошні сказ — «Не тыя часы» — у публікацыях адсутнічае. Усяго толькі адзін невялічкі сказ, але якую сэнсавую нагрузку ён нясе! Нездарма яго выкраслілі.

Ці вось старшына міліцыі кажа Гарбацюку пра тое, што ўзнагарод болей давалі ў тыле, чым на фронце: «Я прыйшоў з арміі ў сорак дзявятым роцы і меў тры мэдаля. А суседка Ганука на буряках запрацувала тры ордэны Леніна. За тры гады — тры ордэны. Больш чым наш камандзір палка. Бурячкі радылы, от начальства і не крыўдавала. І ёй вешалі, і собі. А ёй трэба було страху адрамантуваты. А то страху я рамантуваў. Тры рокы тэкла». І Гарбацюк заўважае з гэтай нагоды: «Так, справядліва! Калі ўрад і ЦК лічаць, што ў тылавіка павінна быць больш, то справядліва».

Увогуле ў аповесці «Мёртвым не баліць» было зроблена каля 200 купюр менавіта цэнзурнага характару, прычым купюры гэтыя былі памерам як у адно слова, так і ў некалькі сказаў ці нават некалькі старонак. Менавіта так — цаглінка за цаглінкай — пільнае вока рэдактарскай цэнзуры знішчала задуму пісьменніка. Няма сумнення, што гэтыя і іншыя скарачэнні былі зроблены цалкам асэнсавана, бо, як сказаў адзін з герояў аповесці, «не той матэр'яльчык». Дарэчы, гэтая фраза таксама была выкрасленая.

## «Рэч вельмі сур'ёзная, па-сапраўднаму сумленная і моцная»

Пасля першапублікацыі «Мёртвым не баліць» у «Маладосці» крытыка пісала пра новы твор цалкам станоўча (за выключэннем толькі сумна вядомага крытыка-вульгарызатара Якава Герцовіча).



*Гродна. На Замкавай гары. Фота А. Перахода*

Шальмаванне аповесці і яе аўтара пачалося на наступны год — пасля яе публікацыі ў перакладзе на рускую мову ў часопісе «Новый мир», які рэдагаваў Аляксандр Твардоўскі. Але найперш трэба сказаць пра той ашаламляльны ўплыў, які зрабіла на сучаснікаў аповесць гродзенскага пісьменніка. Пра гэта цяпер, мусіць, найлепш сведчаць тагачасныя лісты сяброў Васіля Быкава, расійскіх пісьменнікаў ваеннай тэмы, вядомых крытыкаў: Лазара Лазарава, Валянціна Аскоцкага, Рыгора Бакланава, Юрыя Бондарава.

«*19 марта 1966 г.*

Дорогой Василь!

…главное, из-за чего я сел за машинку, — Ваш роман. Я хочу поздравить Вас с большим успехом. Вы написали вещь очень серьезную, по-настоящему честную и сильную. Я мало знаю вещей — по пальцам можно перечесть, — в которых о войне говорились вещи, необходимые нам сегодня, и говорились столь страстно, без оглядки. Зрело и точно написаны все военные главы, самочувствие человека, находящегося на пределе человеческих возможностей, неразбериха, наконец, Сахно и немец. Очень хороша Катя. Хорош и этот гусь в мирных главах, хотя мирные главы беднее военных, и, может быть, монтировать их с военными следовало бы более экспрессивно, более резко. Но все это пустяки. "Мертвым не больно" — удача по самому строгому счету, я рад за Вас. У меня очень личное отношение к тому, что Вы пишете, и Вы даже не можете представить, как я рад, что у Вас такая удача. В Москве уже говорят о Вашем романе… Но что бы о нем ни

писали, Вы можете испытывать законное чувство удовлетворения. Книга отличная…

Ваш *Лазарь*».

«Вася, дорогой, здравствуй! Только что дочитал твою повесть и не могу прийти в себя. Понимаешь, без преувеличения, — я потрясен. Так ще не було, как говорят на Украине.

…Все в целом — черт его знает, как здорово. И мне уже хочется говорить о тебе в третьем лице: в этой повести я вижу нового Василя Быкова, каким раньше он еще не был, даже в "Третьей ракете", которую лично я до сих пор любил больше всего.

Я не знаю, есть ли у тебя в загашнике что-нибудь еще готовое или хотя бы в набросках. Но если и ничего нет, то неудивительно: на таких вещах, как "Мертвым не больно", выкладываются до конца и начисто. Зато и остаются они надолго. Вот.

Теперь уже не только тебя, но и всю "военную прозу" надо мерить новой меркой — меркой этой повести…

Это — о том, *что* сказано тобой. А если говорить о том, *как* сказано, то опять же — пусть приблизительна будет такая оценка, но у меня ощущение, что ты вдруг одним шагом шагнул от беллетристики, не в обидном, а только хорошем смысле слова (ею ведь были и "Журавлиный крик", и "Фронтовая страница", и "Альпийская баллада" — каждая по-своему), к настоящей, высокой — не боюсь этого слова, — талантливой прозе, которую обещала "Третья ракета"…

А пока, Вася, я тебя от души поздравляю с блистательной победой и радуюсь так, как еще никогда не радовался…»

*(З ліста Валянціна Аскоцкага)*

«*22 марта 1966 г.*

Дорогой Василь!

Сегодня ночью дочитал "Мертвым не больно". Не могу сказать, как ты мне близок, как хочется обнять тебя, поблагодарить. Да, им уже не больно. Но боль за них, живущую в нас, быть может, сильней всех выразил ты. Так сильно, что временами, когда читал, сердцу было нехорошо. Физически нехорошо.

Есть много вещей, которые впервые сказал ты. Такую обнаженную солдатскую войну не писал еще никто из нас. А сцена с полковником после высоты! А минное поле! Да дело не в этом даже, не в отдельных сценах. Временами мне хотелось дописать что-то или, наоборот, убрать лишнее, не очень точное, на мой взгляд. Вернее, есть места, где видишь происходящее, как сквозь непротертое стекло. Хотелось протереть его, чтоб увидеть резче. Но все вместе — и вершины взлетов, и спады — все вместе — это зрелая книга зрелого художника. Воздействие ее огромно. Каждая страница ее болит, в каждой — страсть и боль. И прямота, и честность, и солдатское мужество. Ведь до твоей Кати не было еще написано женщины на войне, на той войне, которую мы прошли. А те, что написаны, — в сравнение с ней не идут. И вот такую много раз хотелось мне написать. Она погибла под Запорожьем: всё лазала по полю, перевязывала залегшую пехоту, которая в атаку не шла. Ноги ей оторвало снарядом, она сама перетянула их в воронке и истекла кровью. Там я и увидел ее, когда все же выбили немцев.

Пишу я тебе бессвязно, но не в этом суть. Главное, что написал ты замечательную книгу. Шел ты к ней долгим путем, а начало его там еще, когда ты, очевидно, и писать не думал, когда пошел воевать. Вот в этом качественное отличие ее от книг, которые во множестве пишутся людьми, наблюдавшими войну без отрыва от тылов, теплых мест и штабов…

Твой *Бакланов*».



Ф. ТГ-12

МИНИСТЕРСТВО СВЯЗИ СССР

23 IX 16 01

ТЕЛЕГРАММА

ПРИЕМ ___ го ___ ч. ___ м. Бл. № 77 Принял: ___

ПЕРЕДАЧА ___ го ___ ч. ___ м. № связи ___ Передал: ___

=ГРОДНО БССР ОЛЕГА КОШЕВОГО 28 КВАРТИРА 20 БЫКОВУ-

Из ___ № ___

МСК709/5 МОСКВЫ 709/55 3Н 23 1425-

Служебные отметки

=У НАС СЕРЬЕЗНЫЕ ВИДЫ НА ВАШ РОМАН ТЧК МЫ ОБЬЯВИЛИ ЕГО ПРОСПЕКТЕ НА БУДУЩИЙ ГОД ТЧК СОБИРАЕМСЯ ВСКОРЕ РЕДАКТИРОВАТЬ ТЧК СООБЩИТЕ ОБ ОТКЛИКАХ В БЕЛОРУССИИ=КОНДРАТОВИЧ-

*) Цифры, указанные после наименования пункта, откуда послана телеграмма, означают: 1) № телеграммы, 2) количество слов, 3) число, когда телеграмма отправлена, и 4) время отправления телеграммы (первые две цифры — часы и следующие две цифры — минуты).

Пинская типография

***Тэлеграма А. Кандратовіча ад 23 верасня 1965 г. наконт публікацыі «Мёртвым не баліць» у «Новом мире». Архіў В. Быкава (Гродна)***

«Дорогой Василь!

…Вещь Вы написали талантливую, яркую, всю как бы сплетенную из обнаженных нервов — лучшую из всех военных вещей, которые я читал в последние годы. Запомнилась Ваша да еще "Последние две недели" Розена. Здесь (и у Вас, и у Розена) нет "отработанного пара", давно известного и заимствованного из опыта других. У Вас — все Ваше. Это душевный опыт человека умного, открытого и доброго. Если вещи наших некоторых военных прозаиков можно читать "с перерывом на обед", то Ваша читается взахлеб, и не потому, что она беспощадно сюжетна, нет, а потому что Ваши Катя, Юрка, Василевич, Ваш ощутимый до жестов и запахов подлец Сахно — персонажи не литературные, а жившие где-то рядом со всеми. И сейчас живут они, а в немце Вы копнули самую глубину, немецкую глубину. Надолго запомнится…

У нас, у собратьев по перу, не принято писать поздравительные письма — все высказывают по

телефону, при встречах. Но так как я не могу позвонить Вам и пожать руку (Гродно все-таки далече от Москвы), то пишу Вам это письмо с одним желанием — пожать руку.

*Ю. Бондарев*».

## «ПРАВІЛЫ ГУЛЬНІ»

Ужо ў 1985 г. падчас гутаркі з Адамовічам Быкаў прызнаваўся, што, можа, і не ўзяўся б за «Мёртвым не баліць», і дадаваў: «Я пісаў у 64-м годзе. Але, канешне, быў іншы час, быў “Новый мир”, быў Твардоўскі. Я, праўда, калі пісаў, зусім не разлічваў на “Новый мир”, на Твардоўскага. Проста пісаў, мне хацелася нахабна напісаць пра гэта. Проста пісаць. І я не ўяўляў: надрукуюць або не. А калі надрукуюць, то ці пасадзяць мяне, ці выключаць аднекуль, ці яшчэ што, — ніякага ўяўлення я не меў. Я пра гэта не думаў… Не ведаў правілаў гульні».

Сапраўды, «правілы гульні» былі жорсткія. Аповесць з’явілася ў «Новом мире» ў студзені-лютым 1966 г., а ў красавіку загадчыкі двух аддзелаў ЦК КПСС — аддзела прапаганды і агітацыі і аддзела культуры — дакладвалі высокаму кіраўніцтву: «Сюжетная основа повести — рассказ о том, как группа раненых советских офицеров и командиров зимой 1944 года пыталась в районе Кировограда уйти от преследования врага. Трагическая судьба этой группы обрисована на фоне хаоса и сумятицы в наших частях и усугублена преступными действиями руководившего группой капитана “особиста” Сахно. Он наделен в повести чертами злодея, убийцы. Сахно творит суд и расправу над солдатами и офицерами, пристреливает наших раненых. Наши офицеры и солдаты без конца стреляют друг в друга. Рядовой стреляет в старшину, ранит его, а затем старшина убивает солдата и т. д.

Повесть призывает к отмщению подобным “особистам”. Перенося действие в наше время, в день празднования 20-летия победы над гитлеровской Германией, автор изображает своеобразного двойника Сахно — бывшего председателя Военного трибунала Горбатюка. Горбатюк оправдывает чудовищные жестокости Сахно, который пристреливал раненых советских бойцов, ссылкой на якобы отданный во время войны соответствующий приказ Сталина…

Забвение т. Быковым классовых критериев, грубое искажение исторической правды привели к тому, что из-под его пера вышло произведение, наносящее серьезный вред делу воспитания советских людей, особенно молодежи. Оно мешает правдивому познанию великого подвига советского народа, создает извращенные образы солдат и офицеров Советской Армии…»

Зрэшты, дасюль застаецца адкрытым пытанне, кім усё ж была санкцыянаваная антыбыкаўская




*Распрацоўка сюжэта «Ліквідацыі». Архіў В. Быкава (Гродна)*

кампанія — беларускімі ці маскоўскімі «вярхамі»? У лютым 1966 г. гродзенскі пісьменнік Аляксей Карпюк паведамляў у лісце да першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава: «Не знаю такого областного или городского совещания или пленума, где бы не говорилось о крупных идейных промахах прозаика Быкова.

Быков тоже может что-то сказать опрометчиво, но разве можно вокруг этого поднимать такую шумиху? Не лучше было бы кому-то его вызвать да лично высказать претензии к нему? Василий Быков беспартийный, все разговоры потом до него доходят в разных интерпретациях, он человек, издерганный жизнью и израненный на фронтах, очень болезненно их воспринимает. Я знаю случай, когда у него из-за этого был сердечный припадок.

Василий Быков — гордость всей белорусской литературы. Его первая книга вышла совсем недавно, но в настоящее время тираж его произведений (советских и иностранных) дошел уже до 6 миллионов экземпляров! Нельзя так относиться к народному самородку».

Зыходзячы з падзей сакавіка-красавіка 1966 г., было б лагічна прыйсці да высновы, што першым узяўся за перавыхаванне пісьменніка ўсё-такі афіцыйны Мінск. Аднак не трэба забывацца, што пасля публікацыі ў «Маладосці» прайшло больш як паўгода, і за гэты час, апроч станоўчых крытычных водгукаў, іншай рэакцыі не было — ні ў ЦК КПСС, ні ў КДБ СССР аповесць па-беларуску, вядома, не чыталі. Іншая справа — беларускія ЦК і Камітэт дзяржбяспекі. Але яны маўчалі. Затое, як толькі «Мёртвым не баліць» выходзіць у перакладзе на рускую мову, адразу галоўны беларускі цэнзар Аляксандр Маркевіч дае справаздачу перад маскоўскім кіраўніцтвам: «В июне-июле 1965 г. в журнале “Маладосць” №№ 7–8 была напечатана повесть Быкова “Мёртвым не баліць”. В повести рассказывается о событиях Великой Отечественной

вайны. Группа советских воинов, попав в затруднительное положение, под острие удара прорвавшейся в наш тыл немецкой танковой части, очутилась в трагически безнадежном положении. Из-за недоверия к людям, грубости и подозрительности руководителя, штабного офицера капитана Сахно, почти вся группа погибла». Змест гэтага ліста сведчыць, што беларускі цэнзар Маскву не інфармаваў — ён *даваў справаздачу* з нагоды ідавочнага недагляду свайго ведамства. Недагляд, зразумела, з пункту гледжання саюзнага Галоўліта. У звязку з чым можна меркаваць, што антыбыкаўская кампанія — беларуская, а затым і ўсесаюзная — была ініцыявана ўсё-такі ў Маскве.

Пра гэта сведчаць і наступныя падзеі. Так, ужо 29 сакавіка, выступаючы на XXIII з'ездзе КПСС (заўважым: не ў сябе дома, у Мінску, а зноў жа ў Маскве), Пётр Машэраў гаварыў: «Велізарнае значэнне ў выхаваўчай рабоце маюць літаратура і мастацтва. Аддаючы належнае бясспрэчным поспехам, якіх дасягнула наша творчая інтэлігенцыя, мы, партыйныя работнікі, не можам маўчаць і аб тым, што некаторыя літаратары, як справядліва сказана ў Справаздачным дакладзе ЦК, у сваіх творах ганьбяць гераічнае мінулае савецкіх людзей, чэрняць савецкую рэчаіснасць. Выклікае здзіўленне, з якой паспешлівасцю і лёгкасцю часам слабыя ў ідэйных і мастацкіх адносінах, а іншы раз проста шкодныя творы публікуюцца на старонках папулярных часопісаў і выпускаюцца асобнымі выданнямі. А ўзначальваюць жа гэтыя часопісы і выдавецтвы камуністы. Дзе ж іх партыйная прынцыповасць і адказнасць перад партыяй і народам?»

Аднак звернем увагу: незадаволенасць Машэрава, паводле яго ўласнага прызнання, узнікла пад уплывам звонку; ён згадвае справаздачны даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Брэжнева, які зазначыў: «На жаль, сустракаюцца і такія рамеснікі ад мастацтва, якія замест дапамогі народу выбіраюць сваёй спецыяльнасцю ачарненне нашага ладу, паклёп на наш гераічны народ. Вядома, такіх людзей у нас адзінкі. Яны ні ў якай ступені не выказваюць пачуцці і думкі нашай творчай інтэлігенцыі, непарыўна звязанай з народам, з партыяй. Адшчапенцы не даражаць самым святым для кожнага савецкага чалавека — інтарэсамі сацыялістычнай Радзімы. Зусім зразумела, што савецкі народ не можа праходзіць міма ганебнай дзейнасці такіх людзей. Ён абыходзіцца з імі так, як яны таго заслугоўваюць».

І хоць нельга сцвярджаць, што Машэраў меў на ўвазе менавіта Быкава, аднак ускосна пра гэта сведчыць артыкул, які менш чым праз два тыдні з'явіўся ў газеце «Советская Белоруссия», друкаваным органе ЦК КПБ, і ў якім гаворка ішла не толькі пра «Мёртвым не баліць», — прааналізаваная была, за малым выключэннем, практычна ўся творчасць гродзенскага пісьменніка. Артыкул быў надрукаваны без подпісу, што па тым часе азначала, што такім чынам выкладаецца пазіцыя беларускага ЦК — і яна была недвухсэнсоўная (прывядзём тут толькі тыя фрагменты, якія тычацца «Мёртвым не баліць»): «…В некоторых произведениях В. Быкова читателю навязывается неправильное, искаженное представление об истоках массового героизма советских людей в годы войны. В таких повестях и рассказах солдаты целиком и полностью отданы во власть, мягко говоря, неумных, а то и нечестных командиров. По утверждению одного из персонажей повести “Мертвым не больно” Горбатюка, советские воины совершали подвиги не из чувства патриотизма, высокой сознательности, беспредельной преданности Родине, а в принудительном порядке, под страхом смерти. “А что же сознательность? — говорит Горбатюк. — Сознательность — в газетах, а тут принудить надо. Чтоб боялись”.

Слова эти вложены в уста отрицательного персонажа. Но все ли сделал автор повести для того, чтобы до конца развенчать взгляды Горбатюка, чтобы правда жизни торжествовала убедительно, весомо? Думается, нет.

Из книги в книгу кочуют образы штабных офицеров, которые, если верить В. Быкову, только тем и занимались, что своими неправильными распоряжениями вносили сумятицу в боевые действия.

Серьезные возражения вызывает расстановка сил в повести “Мертвым не больно”. Горлопану и перестраховщику Сахно ничто и никто не мешает измываться над честными воинами, обрекать их на бессмысленную смерть.

Могло, конечно, случиться, что в тылу наших наступающих дивизий сохранились недобитые части противника. Искажение правды начинается с того, что никто не верит и не хочет верить предупреждению очевидцев, обстрелянных гитлеровцами. Потрясающе неправдоподобная беспечность, если учесть к тому же, что действие в повести происходит в 1944 году!

Младший лейтенант Василевич встречает капитана и пытается доложить ему о вражеских танках. Ответ: “Наплевать мне на ваши танки”. Встретился подполковник. Выслушал и приказал идти в соседнюю деревню и там доложить о неприятном соседстве. Третий офицер не дает даже слова сказать: “Попрошу помолчать. Пока вас не спрашивают… А то панику мне развели! Как в сорок первом. Я вам покажу танки!” Капитан же Сахно начинает стряпать очередное дело против “паникеров”. Так создается конфликт, сущность которого сводится к тому, что начальники-головотяпы, пренебрегая жизнью десятков и сотен людей, не хотят ударить палец о палец для разгрома противника. Этому дается и своеобразное толкование: “Кому там заботиться, что в таком-то месте наших боевых порядков образовалась брешь, в которую влезли немцы”. Люди гибнут, отбивая натиск фашистов, а генерал, ответственный за создавшееся положение, ищет козла отпущения. В подобной обстановке самодур Сахно одного раненого пристреливает сам, другого заставляет пустить себе пулю в лоб, а всех остальных гонит на минное поле, принуждает отдавать жизнь, лишь бы у него “сходились концы с концами”. Это уже не война…

…Как случилось, что в Союзе писателей БССР и его литературных изданиях столь долго не замечали, что В. Быков постепенно начинает отходить от жизненной правды, односторонне, а порой искаженно отображать историю Отечественной войны, что, естественно, не способствует воспитанию у народа любви и уважения к Советской Армии, оскорбляет лучшие патриотические чувства наших людей?»

*(Працяг у наступным нумары)*





*Сергей НИКОЛЮК*

# СМЕРТЕЛЬНЫЙ СТРАХ как фактор развития

**В чем суть происходящего? Если коротко и на бытовом языке, — в том, что мы выпадаем из тележки. Из той самой тележки, в которой народы, не утратившие способность к развитию, продолжают свое движение в истории.**

Начну с бытовой истины, позаимствованной из мультика: «Как вы судно назовете, так оно и поплывет». До 1991 г. я и мои сверстники строили коммунизм. А что мы строим сегодня? Как определить страну, в которой мы живем? Она все еще советская или уже нет, а если нет, то какая? Постсоветская? Но если вещь или явление не определены, то они не могут быть предметом научного исследования.

Мы — не ученые, поэтому такая неопределенность нас мало волнует. Мы — люди практичные и, подобно единственному белорусскому политику, на пути к светлому будущему привыкли принимать решение «от жизни». Но тут есть одна проблема. Первым ее осознал Сенека: «Если человек не знает, куда он плывет, — то для него нет попутного ветра». А в условиях глобализации, в условиях максимального обострения конкуренции между экономиками, государствами и национальными культурами пойманный в паруса попутный ветер является дополнительным фактором развития.

Обратимся к тексту Послания-2014. Оно открывается утверждением, что для сохранения независимости страны, за право жить на своей земле и самим распоряжаться своей судьбой необходимы, как минимум, три вещи:

«…во-первых, единство народа Беларуси;

Во-вторых, извлечение уроков из своих ошибок и ошибок соседей;

В-третьих, ясный проект будущего Беларуси, способный воодушевить и объединить как старшее, так и молодое поколение нашей страны».

К сожалению, все мои попытки отыскать в тексте послания раздел, посвященный проекту будущего Беларуси, закончились безрезультатно. А раз нет проекта будущего, то нет и попутного ветра. Прав был Сенека.

## Между двумя *-измами*

Культура и ее носители либо изменяются и попадают в будущее, либо остаются неизменными и сходят с исторической арены. Такова суровая правда жизни. За примером далеко ходить не надо. Достаточно обратить взгляд на нашу южную соседку Украину.

За 20 с лишним лет независимости в стране не найдены ответы на фундаментальные вопросы о целях и формах национального развития. Более весомого доказательства банкротства политической элиты, пожалуй, и не представить.

В результате проблема национально-государственного строительства была заменена обсуждением якобы судьбоносного выбора между Россией и Европой. Выбора, безусловно, важного. Но кто его делает? Украина? Такого дееспособного государства, как показали последние события, не существует. То, что сторонний наблюдатель еще недавно принимал за государство, на деле оказалось совокупностью неформальных групп, неспособных согласовать свои интересы.

